ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 9 (2411) 2 сакавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

## ЧОРНАЯ КОШКА ПАМІЖ НАМІ НЕ ПРАБЯГАЛА

**З 23 ПА 26 ЛЮТАГА ПРАЙШЛІ ДНІ КУЛЬТУРЫ УКРАІНЫ Ў МІНСКУ. НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ КАРЭСПАНДЭНТ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" СУСТРЭЛАСЯ З НАДЗВЫЧАЙНЫМ І ПАЎНАМОЦНЫМ ПАСЛОМ УКРАІНЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ Уладзімірам ЖЭЛІБАЙ.**

*-- Уладзімір Іванавіч, паміж украінскім і беларускім народамі спрадвеку існавалі добрасуседскія адносіны. Нядаўна Украіна і Беларусь сталі незалежнымі самастойнымі дзяржавамі. Што новага з'явілася ў іх узаемадачыненнях?*

-- У агульным плане нашы ўзаемаадносіны былі дружалюбнымі, глыбокімі, такімі і засталіся. У нас агульныя карані і традыцыйна прыязныя стасункі. Чорная кошка паміж намі не прабягала, хаця на ўзроўні абывацеля цяпер часам можна пачуць шкадаванне, што нашы народы раздзяліліся.

Сапраўды, у апошнія два з паловай гады кантакты паміж Беларуссю і Украінай значна скараціліся. І гэта тлумачыцца, на мой погляд, тым, што мы занятыя дзяржаўным будаўніцтвам, апынуліся перад безліччу праблем, выкліканых новым статусам нашых краін, і праблемы патрабуюць неадкладнага вырашэння. На працягу гэтых 2,5--3 гадоў не было ніводнай дэлегацыі на высокім узроўні. І толькі ў канцы мінулага года Мінск наведала прадстаўнічая дэлегацыя на чале з прэм'ер-міністрам Украіны Віталем Масолам, а праз некаторы час у Кіеве пабывала дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі, якую ўзначальваў спікер беларускага парламента Мечаслаў Грыб.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ**

**Уладзіміра СЛУЧАНСКАГА**

## У СЭРЦЫ СМУТАК, ЖАЛЬ І НЕПАКОЙ

Уладзімір Случанскі -- адзін з вядомых дзеячаў беларускай эміграцыі ў Аўстраліі, таленавіты мастак-жывапісец, аўтар цікавай гістарычнай прозы, пісьменніцкае дараванне якога не змагло рэалізавацца да канца з-за розных неспрыяльных абставін. А перыпетыі яго жыцця маглі б стаць асновай для аб'ёмнага даследавання аб шляхах-пуцявінах чалавека, які апынуўся на перакрыжаваннях айчыннай гісторыі XX стагоддзя і, найперш, выгнанніцкай гісторыі.

Вехі яго ранняй біяграфіі тыповыя амаль для кожнага беларуса, што паходзіў з сям'і кадравага вайскоўца, якога службовы лёс кідаў па ўсяму неабдымнаму СССР. Пад той час як нарадзіцца першынцу Уладзіміру (1927), бацькі яго, Сцяпан Міронавіч і Аўгенія Сямёнаўна Шнэкі, жылі ў Мінску. Але ў 1930 годзе бацьку пасылаюць на вучобу ў Ленінградскую ваенна-палітычную акадэмію (там, у Ленінградзе, нарадзіўся іх другі сын -- Алег, цяпер таксама дзеяч беларускай эміграцыі ў Аўстраліі), дзе Уладзімір пайшоў вучыцца ў першы клас. Кожнае лета дзеці праводзілі ў вёсцы Лядныя на Случчыне, у якой жыла ўся бацькава радня. І, можа, з тых незабыўна-шчаслівых дзіцячых дзён запалі ў сэрца і памяць непаўторная краса родных мясцін, дзе працякаюць Случ і Марачанка, у якіх так добра лавіліся ўюны, а вакол, як кінуць вокам, казачна-прыгожы лес, поўны грыбоў і ягад, а ў бабуліным садзе так смачна пахне кропам, агуркамі, яблыкамі і грушамі, і да гэтага часу адчуваецца, як па вёсцы разносіцца водар свежаспечанага хлеба і сырадою, і з самага золаку спявае пастуховая жалейка... Можа адсюль пачалося для Уладзіміра ўсведамленне Радзімы, зоркі якой свецяць яму і цяпер у далёкай Аўстраліі. Але тады падлетка турбавала адно -- ён не ведаў беларускай мовы, бо ў сувязі з частымі пераездамі бацькі вучыўся ў рускіх школах і з ранняга дзяцінства прызвычаіўся чытаць кнігі рускіх аўтараў. Аднак выйсце было знойдзена. Склаўшы вялікі спіс-слоўнік рускіх слоў, ён папрасіў бацьку перакласці іх на беларускую мову і старанна пазавучваў, пасля чаго адчуў сябе паўнавартасным беларусам. Але ў 1936 годзе бацьку пасля заканчэння акадэміі накіроўваюць у Чыту Забайкальскай вайсковай акругі, і дзеці зноў трапляюць у рускамоўнае асяроддзе.

(Працяг на 6-й стар.).

*500 ГАДОЎ МІРСКАМУ ЗАМКУ*

## ХАЙ АНЁЛ РАСКІНЕ НАД НАМІ СВАЕ КРЫЛЫ



**Мірскі замак -- нацыянальны скарб беларускага народа, унікальны помнік архітэктуры. І ў той жа час ён, нібы жывая істота, пяць доўгіх стагоддзяў захоўвае памяць аб былой славе старажытнай беларускай дзяржавы, яе магутнасці і годнасці. Замак у Міры заснаваў магнацкі род Ільінічаў, гаспадарамі былі тут Радзівілы, Вітгенштэйны і Святаполк-Мірскія.**

**Сведкамі многіх падзей (часцей за ўсё трывожных і разбуральных) былі сцены і вежы замка, але найбольш пацярпела пабудова ў апошняе стагоддзе, калі, спаленая і разбураная, стаяла яна занядбаная і зняважаная. Цяпер, здаецца, лёс замка пачаў мяняцца да лепшага. Хоць і марудна, але ідуць у ім рэстаўрацыйныя работы, з'явіўся тут нават невялічкі музей. У мінулым годзе фонд "Еўропа Нострa", які вялікую ўвагу ўдзяляе захаванню архітэктурнай і прыроднай спадчыны, адзначыў ганаровым дыпломам і Мірскі замак.**

**У канцы мінулага года ў "Голасе Радзімы" ў адным з артыкулаў згадвалася, што астролаг Вераніка Кудраўцава заканчвае працу над кнігай пра Мірскі замак. (Дарэчы, кніга закончана і хутка павінна з'явіцца ў продажы). Незвычайнасць твора заключаецца ў тым, што аўтар паспрабавала зірнуць на унікальнае збудаванне з пункту гледжання астролага. Склаўшы гараскоп замка, В. Кудраўцава прыйшла да высновы, што яго лёс праецыруецца на лёс Беларусі, а часам падзеі, што адбываліся тут, уплывалі на падзеі ў краіне. З дапамогай зорак астролаг вызначыла і дакладную дату заснавання Мірскага замка: 22 кастрычніка 1503 года.**

**Наогул з гэтым месцам звязана шмат загадкавага і містычнага. Подых нечага ірэальнага адчуваеш, стоячы перад магільным склепам князёў Ільінічаў. На ім мазаікай выкладзены партрэт-ікона Ісуса Хрыста, якую не кранулі стагоддзі. Яна ззяе фарбамі, нібы толькі што створаная. І яшчэ адна загадка старажытных майстроў: з якога боку ні глянеш на Ісуса Хрыста, абавязкова сустрэнешся з ім вачамі. Ніводзін снарад ніколі не трапіў у пахавальню, і яна ніколі не разбуралася. Па паданню, яе ахоўвае святы анёл.**

**Калі сапраўды ёсць нейкая таемная сувязь паміж гэтай загадкавай мясцінай і Беларуссю, хай анёл раскіне свае лёгкія крылы і над нашай Бацькаўшчынай, зберажэ яе ад новых войнаў і нашэсцяў чужынцаў, ад легкавернасці і бяспамяцтва.**

**НА ЗДЫМКАХ: вежы Мірскага замка; магільны склеп князёў Ільінічаў.**

**Дз. ЧАРАПОВІЧ.**



## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



**21--22 лютага адбыўся афіцыйны візіт у Беларусь Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына, у час якога быў падпісаны Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве. Афіцыйная дэлегацыя Расіі наведала Мінскі аўтазавод. Прэзідэнт Расіі сустрэўся ў Акадэміі навук з творчай і тэхнічнай інтэлігенцыяй Беларусі, дзе выступіў з прамовай. Як сказаў Барыс Ельцын, ён надае гістарычнае значэнне свайму візіту ў Мінск і падпісанню расійска-беларускага дагавора.**

**НА ЗДЫМКУ: у час падпісання Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве.**

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

### УЛАДЗІМІР ШЧАСНЫ — ПАСОЛ БЕЛАРУСІ Ў АНГЛІІ

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Англіі ўзначаліць Уладзімір Шчасны. Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, ён назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у гэтай краіне.**

**У Вялікабрытанію У. Шчасны прыбудзе з Вільнюса, дзе ён да апошняга часу займаў пасаду саветніка беларускага пасла ў Літоўскай Рэспубліцы. Трэба адзначыць, што ў свой час Уладзімір Шчасны быў памочнікам міністра замежных спраў Беларусі.**

*НА МЯЖЫ*

### УКРАІНА ЎЗМАЦНЯЕ ТАМОЖНЫ КАНТРОЛЬ

**Старшыня Дзяржаўнага таможнага камітэта Украіны Ю.Краўчанка правёў брыфінг для журналістаў, на якім заявіў, што ў адпаведнасці з рашэннем урада ўзмоцнены таможны кантроль на ўсёй працягласці ўкраінскіх межаў.**

**Асаблівая ўвага ўдзяляецца стварэнню новых таможных пастоў і новых таможных атрадаў на мяжы Украіны з Расіяй і Беларуссю. На гэтыя мэты Кабінет Міністраў выдзяляе мытнаму камітэту дадатковыя сродкі.**

*ВАЙСКОВАЯ СЛУЖБА*

### У БЕЛАРУСІ СПАКАЙНЕЙ

**Адток беларускіх афіцэраў у Расію і іншыя рэспублікі апошнім часам прыкметна зменшыўся. Пра гэта заявіў на сустрэчы з воінамі Пухавіцкага гарнізона міністр абароны генерал-палкоўнік Анатоль Касценка. На думку міністра абароны, гэта звязана з некаторым паляпшэннем матэрыяльнага забеспячэння беларускіх ваеннаслужачых, а таксама з іх няўдзелам у чачэнскім канфлікце. "Ніводзін беларускі ваеннаслужачы не будзе пасланы служыць за межы рэспублікі", -- яшчэ раз падкрэсліў на сустрэчы ваенны міністр.**

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*



**Рэспубліканскі цэнтр рэабілітацыі хворых і інвалідаў па зроку створаны ў Гомелі. Гэты статус ён атрымаў з увядзеннем у строй ляэчна-кансультатыўнай паліклінікі. Цяпер, акрамя яе, комплекс мае тры клінічныя аддзяленні на 185 ложкаў, лазерны цэнтр, аддзяленні функцыянальнай дыягностыкі і экстраннай дапамогі, дзіцячы санаторый.**

**Новы афтальмалагічны цэнтр, створаны па ўзору маскоўскай клінікі вядомага вучонага, спецыяліста ў галіне мікрахірургіі вока С.Фёдарава, стаў першым у Беларусі і трэцім у краінах Садружнасці. Тут будуць аказваць неабходную дапамогу з прымяненнем найноўшых тэхналогій і абсталявання пацыентам з усіх куткоў рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКУ: функцыянальную дыягностыку зроку праводзіць урач-акуліст Таццяна БОБР.**

*ДАЛІ ДАЗВОЛ*

### НА ЛЬГОТНЫХ УМОВАХ

**Беларусі дадзена права на набыццё соевай мукі і кукурузы амерыканскай вытворчасці на льготных умовах. Такое рашэнне прыняло Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША ў адпаведнасці з пагадненнем аб крэдытных пастаўках, падпісаным 27 студзеня ў Вашынгтоне. Аб гэтым паведамілі ў пасольстве ЗША ў Мінску.**

**У пасольстве ЗША адзначылі, што сельскагаспадарчая прадукцыя прапанавана на вельмі выгадных крэдытных умовах: 2-працэнтны крэдыт і тэрмін першага плацяжу -- праз 7 гадоў пасля дастаўкі прадукцыі. Умовы пагаднення агаворваюць таксама, што Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША пакрывае 98 працэнтаў кошту марскіх перавозак выдзеленай прадукцыі.**

**Кошт соевай мукі перавышае 6 мільёнаў долараў, а кукурузы -- 2 мільёны долараў.**

*ПЛАТНАЯ МЕДЫЦЫНА*

### КОЛЬКІ "КАШТУЕ" ПРЫВАТНІК?

**З такім пытаннем карэспандэнт агенцтва РІД звярнуўся да галоўнага спецыяліста па немедыкаментозных метадах аздараўлення Аляксандра Кірсанава.**

**Як высветлілася, наведванне ўрача-прыватніка з мэтай агляду абыдзецца: дзецям -- 3 тысячы рублёў, дарослым -- 5 тысяч, інвалідам II і III груп -- 3 тысячы. Інвалідам I групы гарантавана бясплатнае абследаванне.**

**Кандыдат медыцынскіх навук Валерый Шумілаў, які лечыць метадам галадання, паведаміў наступныя "тарыфы": кансультацыя -- 10 долараў ЗША, курс лячэння -- 60 долараў.**

*ЛЕПШЫЯ Ў СВЕЦЕ*

### АХОЎНЫЯ ФІЛЬТРЫ "ІЗОВАК"

**Мінскай навукова-тэхнічнай фірмай "Ізовак" атрыманы доўгачаканы факс з Стакгольма. Шведскі нацыянальны інстытут радыяцыйнай аховы паведамляе, што прадукцыя мінчан поўнасцю адпавядае сусветным стандартам. А прыведзеныя ў паведамленні вынікі выпрабаванняў сведчаць, што фільтры для камп'ютэраў з маркай "Ізовака" па сваіх ахоўных уласцівасцях не саступаюць прадукцыі такіх сусветна вядомых фірм, як Ocli, Polaroid, Ergostar.**

**Шведскі інстытут прызнаны міжнародным цэнтрам па сертыфікацыі і выпрабаванню вырабаў, якія выклікаюць апраменьванне чалавека.**

*ЗДАРЭННІ*

### ХАЦЕЎ ВІТАЦЬ ЕЛЬЦЫНА

**21 лютага, амаль у час ускладання Б.Ельцыным кветак да абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску, на прылягаючай да плошчы вуліцы памёр чалавек. Гэта Барыс Гуляеў, жыхар Мінска, каля 65 гадоў. Выходзячы з дому, ён сказаў сваякам, што ідзе "паглядзець на Ельцына". Аднак на вуліцы Кісялёва з ім здарыўся сардэчны прыступ. Адзін з міліцыянераў, які стаяў у ачапленні, выклікаў хуткую дапамогу. Выклік на станцыю паступіў у 13.29. Брыгада ўрача Цімафеева выехала адразу ж.**

**Ад станцыі хуткай дапамогі да вуліцы Кісялёва язды -- тры хвіліны. Але "хуткую" не прапусцілі. Першы раз міліцэйскае ачапленне спыніла яе на перакрыжаванні вуліц Захарава і Першамайскай, другі -- у Бранявым завулку. Тут у вадзіцеля, які спрабаваў растлумачыць, што брыгада едзе да "сардэчніка", прыгразілі адабраць правы. Калі спынілі трэці раз, брыгада выйшла з машыны і пайшла пешшу.**

**Спазніліся. Дапамога Гуляеву ўжо не спатрэбілася. Брыгада медыкаў канстатавала смерць і выклікала спецыяльную машыну для дастаўкі цела ў гарадское бюро судова-медыцынскай экспертызы. Але яшчэ доўгі час цела памерлага ляжала на вуліцы, рух па якой быў перакрыты. І толькі ў 17.20 нябожчыка даставілі ў морг.**

*ЛЕГЕНДЫ І ЖЫЦЦЁ*

### НЕТРЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ

**Геолагі маюць намер прабурыць 20 свідравін, перш чым адкажуць, ці ёсць у нетрах Віцебшчыны пустоты, прыдатныя для захоўвання звадкаванага газу. Ужо ёсць абнадзейваючыя вынікі. Згодна з легендай, тут існуе цэлая сістэма пячор, якія звязаны між сабой. Таму не выключана, што, запампаваўшы газ дзе-небудзь ва Ушацкім раёне, можна атрымаць "фантан" пад Віцебскам. Існуе таксама легенда аб радовішчах нафты, разведаных тут яшчэ да рэвалюцыі.**

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ МЯСЦІНЫ*

### "БРАСЛАЎСКІЯ АЗЁРЫ"

**Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сумесна з Упраўленнем спраў Прэзідэнта Беларусі і Браслаўскім райвыканкомам падрыхтаваны праект пастановы аб стварэнні нацыянальнага парку "Браслаўскія азёры".**

**Парк будзе знаходзіцца ў распараджэнні Упраўлення спраў Прэзідэнта рэспублікі. Яго плошча складзе 54,4 тысячы гектараў. У перспектыве вучоныя і спецыялісты плануюць стварыць на базе Прыпяцкага запаведніка нацыянальны парк "Тураўшчына".**

*У ДАР МУЗЕЮ*



**У навагрудскі музей Адама Міцкевіча нядаўна прыйшла незвычайная пасылка. Жыхарка польскага паходжання Данута Спачынская з Лондана, гарачая паклонніца паэзіі Міцкевіча, прыслала ў дар музею неацэнны экспанат -- томік вершаў паэта, выдадзены пры яго жыцці ў 1828 годзе ў Познані.**

**Па адной з версій Навагрудак -- радзіма А.Міцкевіча. У гэтым горадзе яго хрысцілі. Прыхільнікі творчасці вялікага паэта не забываюць пра гэта. Штогод у музей паступаюць усё новыя і новыя экспанаты, што расказваюць аб жыцці выдатнага майстра пяра.**

**НА ЗДЫМКУ: дырэктар навагрудскага музея Адама Міцкевіча Галіна КУЧМАН з экспанатам.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КАЛЯ горада Мінеральныя Воды затрыманы трое грамадзян Беларусі. Расійскія ўлады прад'явілі ім абвінавачванні ў тым, нібыта яны накіроўваліся ў Чэчню ў якасці наёмнікаў.

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ стаў сцяной супраць увядзення ў якасці дзяржаўнай узнагароды Рэспублікі Беларусь ордэна Кастуся Каліноўскага і медаля Адраджэння. Ніякіх абгрунтаванняў на сесіі чуваць не было. Парламенцкая большасць проста прагаласавала "супраць".

ЦЭНТРАЛЬНАЯ навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі адзначыла 70-годдзе з дня свайго заснавання. З гэтай нагоды яна ўзнагароджана Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

ДЭПУТАТ ад ветэранскай арганізацыі Васіль Марозаў 20 лютага быў пазбаўлены слова на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі. Старшынствуючы на сесіі М.Грыб перапыніў выступленне В.Марозава пасля таго, як той хацеў давесці да ведама дэпутатаў зварот камуністаў Брэста і дэлегатаў абласной канферэнцыі ветэранаў. У звароце сцвярджалася, што цяперашняя дзяржаўная сімволіка "позорит белорусский народ".

У МАЛАДЗЕЧАНСКІМ музычным вучылішчы адбылася сустрэча Пятра Краўчанкі са студэнтамі і выкладчыкамі. Тут жа адкрыта фотавыстаўка аб дзяржаўнай дзейнасці былога міністра замежных спраў Беларусі. Сустрэча ў Маладзечне разглядаецца як першы крок П.Краўчанкі на шляху ў новы парламент: у родным горадзе ён мае намер выпусціць сваю кандыдатуру у дэпутаты Вярхоўнага Савета.

# ЧОРНАЯ КОШКА ПАМІЖ НАМІ НЕ ПРАБЯГАЛА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У час візітаў аналізаваліся сувязі ў навукова-тэхнічнай, эканамічнай, гандлёвай, ваеннай сферах. Было заўважана, што неабходна ўнесці, хай сабе і нязначныя, папраўкі да дзеючых законаў, каб мець магчымасць выконваць пагадненні, падпісаныя раней паміж Украінай і Беларуссю. З беларускіх і ўкраінскіх дэпутатаў створаны міжпарламенцкія групы для супрацоўніцтва з Украінай і адпаведна з Беларуссю.

Нашы эканомікі традыцыйна інтэгрыраваны адна ў адну, у таваразвароце Беларусі Украіна займае другое пасля Расіі месца, таму звужэнне эканамічных адносін, што адбылося ў апошнія гады, недапушчальнае. Цяпер пачынаюць аднаўляцца кантакты на міжрэгіянальным узроўні. Падпісаны пагадненні паміж Кіеўскай і Мінскай абласцямі, Магілёўскай і Кіраваградскай, Валынскай і Брэсцкай.

Паколькі ў Мінску было адкрыта ўкраінскае пасольства, з'явіліся ўмовы для таго, каб не перарваліся нашы культурныя, духоўныя сувязі. У 1993 годзе прайшлі Дні Беларусі на Украіне. Грунтоўна так прайшлі. Пакінулі добры след. Ёсць дамоўленасці, пажаданні аб узаемадзеянні ў гуманітарнай сферы. У рамках гэтых пагадненняў цяпер і праводзяцца Дні Украіны ў Мінску. Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што няма паміж нашымі дзяржавамі палітычнай зашоранасці, жадання раздзяліцца, адысці адна ад другой як мага далей. Мы за супрацоўніцтва.

Аб'ядноўвае нас і агульная бяда -- Чарнобыль.

*-- Чарнобыль нас моцна звязаў...*

-- Так, гэта агульнае гора. Але супрацоўніцтва ў гэтай галіне можна браць за прыклад. У нас ёсць сумесныя праграмы, узгадняюцца даследаванні, наладжаны абмен інфармацыяй.

*-- Сёння ў беларускай праграме "Радыёфакт", здаецца, упершыню прагучала паведамленне, што на граніцы з Украінай з'явіліся чэргі. Чым, на вашу думку, гэта магло быць выклікана?*

-- Думаю, што гэта выпадковасць. Не бачу тут нічога насцярожваючага. Тым больш, што нядаўна падпісана пагадненне, згодна з якім вырашана спрасціць парадак зносін паміж Украінай і Беларуссю. Ствараць нейкія перашкоды, узмацняць межы было б недаравальна. Згодна з перапісам, сёння ў Беларусі жыве каля 300 тысяч украінцаў, а на Украіне -- 440 тысяч беларусаў. І гэта толькі па пашпартах. Так што нельга секчы па жывому.

*-- На Брэстчыне жыве найбольшая колькасць украінцаў. І, мусіць, зыходзячы і з гэтай акалічнасці часам можна пачуць сцвярджэнні, што Брэстчына, Палессе — гэта ўкраінская тэрыторыя, яна павінна адысці да Украіны. Як вы ставіцеся да такіх выказванняў?*

-- Вельмі проста. У афіцыйных колах такія пытанні не ўзнікаюць. А калі раптам усплываюць, то лічу, што яны спецыяльна некім падаграюцца тут. Гавару гэтак не таму, што хачу ўхіліцца ад далікатнага пытання, а проста таму, што яно нас не хвалюе, і няма патрэбы яго ўзнімаць.

*-- Ці змянілася штосьці ў жыцці ўкраінцаў на нашай зямлі ў апошнія гады? Ці прыходзяць яны да вас са сваімі скаргамі, праблемамі?*

-- Будаўніцтва незалежных дзяржаў, канечне, звязана з цэлым шэрагам праблем, якія напачатку негатыўна ўплываюць на жыццё людзей. Раней у нас была адзіная грашовая сістэма. Цяпер уведзены розныя грошы, што стварае нязручнасці і нават цяжкасці для жыхароў абедзвюх краін. Праезд стаў дарагім. Нават паслаць грашовы перавод і то было праблемай, выклікала незадавальненне. Зараз ёсць пагадненне паміж Міністэрствамі сувязі дзвюх дзяржаў, і праблема гэта знікла.

*-- А скаргі з боку тутэйшых украінцаў на нейкія палітычныя абмежаванні не паступаюць да вас?*

-- Не, скаргаў няма. Тым больш, што ўкраінцы ёсць і сярод дэпутатаў у Вярхоўным Савеце, і ў мясцовых органах улады. Зараз людзей хвалюе нейкая бытавая неўладкаванасць, цяжкасці з працай. Дык гэта ўсіх датычыць, не толькі ўкраінцаў. А нацыянальныя меншасці ў Беларусі адчуваюць падтрымку дзяржавы. І закон такі прыняты.

У Беларусі існуюць два буйныя нацыянальныя ўкраінскія аб'яднанні -- "Ватра" (агонь) і Грамадска-культурнае аб'яднанне ў Брэсцкай вобласці. Абодва аб'яднанні выдаюць газеты "Украінец Беларусі" і "Голас Берасцейшчыны". Урад Беларусі аказвае дапамогу ў выданні названых газет, выдзелена памяшканне.

У Беларусі няма ўкраінскіх школ, але гэта не азначае, што іх хтосьці тут забараняе. Бацькі павінны напісаць заяву, што яны хочуць, каб іх дзеці вучыліся ва ўкраінскай школе. Для 15--20 такіх дзяцей адкрыюць школу. Пакуль ёсць толькі нядзельная ўкраінская школа, некалькі гурткоў.

*-- Скажыце, калі ласка, Уладзімір Іванавіч, а калі беларусы на Украіне захочуць адкрыць сваю школу, яны будуць мець такую магчымасць?*

-- Абсалютна свабодна. У нас няма такога пытання. Усё залежыць толькі ад саміх беларусаў. На тых жа падставах, што і тут, у Беларусі для ўкраінцаў.

*-- Мы ў рэдакцыі атрымліваем пісьмы з Украіны, у якіх нашы землякі скардзяцца, што не могуць падпісацца на беларускія выданні, у прыватнасці, і на "Голас Радзімы". Ці робіцца штосьці, каб выправіць такое становішча?*

-- Гэта надзвычай балючая праблема. І калі мы сюды ў 92-м годзе прыехалі, да нас украінцы звярталіся з падобнымі пытаннямі. У мінулым годзе паміж Саюздрукам Беларусі і Галоўпоштай Украіны падпісана пагадненне. Цяпер у Мінску і Брэсце можна падпісацца на ўкраінскія выданні, у Кіеве -- на беларускія.

*-- Але Украіна вялікая...*

-- Так, хацелася б, каб і на іншыя гарады Украіны распаўсюджвалася пагадненне. Будзем спадзявацца. Самае галоўнае -- лёд крануўся. Да таго ж мы яшчэ вельмі хацелі б, каб паміж Украінай і Беларуссю быў рэгулярны тэлерадыёабмен. Зараз распрацоўваецца дагавор паміж Дзяржтэлерадыё Украіны і Нацыянальнай тэлерадыёкампаніяй Беларусі. Сёлета гэта пытанне павінна быць вырашана.

Ускладаем вялікія спадзяванні на Дні культуры Украіны ў Мінску. Яны паспрыяюць духоўнаму яднанню двух народаў, дзвюх культур. На свяце будуць прадстаўлены нашы лепшыя творчыя сілы. У складзе ўкраінскай дэлегацыі да 200 чалавек. Дзесяць чалавек уваходзяць у афіцыйную дэлегацыю на чале з намеснікам прэм'ер-міністра. У час правядзення Дзён будуць падпісаны дакументы аб далейшым супрацоўніцтве паміж дзвюма славянскімі дзяржавамі. На прэс-канферэнцыі, якая напярэдадні адбылася ў Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь, узнімалася пытанне, ці не даніна старой традыцыі правядзенне падобных мерапрыемстваў. І было падкрэслена, што незалежнай Беларусі і незалежнай Украіне няма патрэбы штосьці рабіць напаказ, як няма патрэбы ў адасабленні нашых культур. Дні культуры Украіны ў Мінску сведчаць аб добрай згодзе абодвух бакоў, імкненні творцаў паказаць сябе і ўзбагаціцца духоўна, бліжэй пазнаёміўшыся з культурай беларусаў.

Гутарыла
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

# Я НЕ ЗАДАВОЛЕНЫ "ПАЗІЦЫЯЙ"

Шаноўная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"! Я ваш даўні падпісчык і чытач, хачу звярнуцца праз газету да тых, хто цяпер кіруе Беларускім нацыянальным радыё. Справа вось у чым. Па панядзелках радыёстанцыя "Сталіца" выпускае перадачу "Пазіцыя", якую вядзе пан Яўген Багадзяж. Мяне вельмі здзіўляе тое, дзе ён знаходзіць выступоўцаў для гэтай перадачы. Так і здаецца, што Багадзяж спецыяльна падбірае такіх людзей, якім не падабаецца Рэспубліка Беларусь, яе суверэнітэт, яе гісторыя, яе мова, яе дзяржаўныя нацыянальныя сімвалы. Хіба гэта нармальна ў незалежнай Беларусі? Вось выступаюць бацькі, якім не падабаецца беларуская мова, і ім хочацца, каб іх дзеці не вывучалі яе. Як яны ахайваюць нашу мову, абліваюць брудам беларускамоўныя класы, патрабуюць рускамоўных школ, хаця беларускамоўных школ у Мінску і ў нас у Віцебску яшчэ мала. Замест таго каб дапамагчы беларусам, якія прытулілі гэтых рускіх шавіністаў у сябе на Беларусі, адрадзіць беларускую мову, культуру, гісторыю, спадчыну, яны стараюцца ўсё гэта загубіць.

Канешне, не ўсе так робяць. Ёсць шмат рускіх людзей, якія маюць высокую нацыянальную самасвядомасць, якія паважаюць беларусаў, валодаюць беларускай мовай, ведаюць нашу гісторыю, спадчыну. Дык вось пра такіх рускіх людзей чамусьці ніколі пан Багадзяж не вядзе перадачы. Для сваіх перадач ён знаходзіць ветэранаў-персанальшчыкаў з эліты. Вось гэтыя ветэраны лезуць са скуры з пенай у роце, каб як-небудзь abліць брудам нашых нацыянальна свядомых людзей, таленавітых, эрудзіраваных, дасведчаных з БНФ, з Грамады, ПНЗ і інш. У гэтых ветэранаў настальгія па былым СССР, калі яны жылі вельмі добра, карыстаючыся рознымі прывілеямі і льготамі (спецпаліклінікі, спецпайкі, спецсанаторыі, спецмашыны і г. д.). Ім не падабаюцца ні нашы нацыянальныя сімвалы (сцяг, герб), яны гатовы іх заўсёды абражаць, ні наша нацыянальная самастойнасць. Ім патрэбны СССР, каб будаваць камунізм. І вось для гэтых людзей, якія аб'ядноўваюцца супраць суверэнітэту Беларусі, у народным руху Беларусі стварылі нават Саюз юрыстаў, каб абараняць членаў гэтага руху. Да чаго толькі не дадумаюцца ворагі Беларусі? І для выступлення кіраўніка гэтага саюза, юрыста таксама, даецца час у гэтай перадачы. Хіба могуць такія перадачы прывесці да кансалідацыі беларускага народа? Вядома, не. Яны вядуць да канфрантацыі, распальваюць варожасць паміж народамі. Няўжо гэта падабаецца пану Багадзяжу? Хіба нельга наладзіць такія перадачы, якія б спрыялі дружбе паміж усімі людзьмі, што жывуць на Беларусі, незалежна ад іх нацыянальнасці, узаемадапамозе, нацыянальнай згодзе, ліквідацыі варожасці? А чаму нельга наладзіць перадачы па матэрыялах нашай гісторыі, спадчыны? Хіба ў нашай гісторыі няма чым ганарыцца? Нам патрэбны такія перадачы, каб яны выхоўвалі ў беларусаў нацыянальны патрыятызм у самым лепшым значэнні гэтага слова (любоў да Беларусі, яго народа, яго гісторыі, павагу да нацыянальных сімвалаў, да людзей іншых дзяржаў).

**Пенсіянер В. КРУГЛОЎ.**
Віцебск.

# НЕ ГУБЛЯЮЦЬ ВЕРУ Ў ЛЕПШАЕ

Паважаны рэдактар газеты "Голас Радзімы"!

Ваша газета з'яўляецца для мяне своеасаблівым акном, якое дае пагдзець на тыя падзеі, што адбываюцца на Бацькаўшчыне. І я вельмі ёй удзячны, бо інфармацыі, скажам так, расійскія газеты пра Беларусь даюць нямнога. А тая, што даецца, як правіла, негатыўнага характару: інфляцыя, спыненне работ на шэрагу заводаў і фабрык, а адсюль рост беспрацоўя і зніжэнне ўзроўню жыцця асноўнай часткі насельніцтва.

Не застаецца ў баку і "Голас Радзімы". Так, у прыватнасці, у адным са снежаньскіх нумароў паведамлялася, што ў маім Жлобінскім раёне склалася цяжкае становішча з забеспячэннем насельніцтва раёна мылам, а таксама хлебам.

Калі я прачытаў гэта, то, паверце мне, кепска стала на душы. І адразу накіраваўся ў магазіны, дзе купіў некалькі кілаграмаў мыла, каб адвезці сваім родзічам.

Калі прыехаў да сябе ў вёску і стаў раздаваць падарункі родным, то яны былі вельмі здзіўлены, што я прывёз столькі мыла, якога, паводле іх слоў, дастаткова ў мясцовай краме. Мае землякі не адчуваюць праблем і з завозам хлеба.

Безумоўна, жыццё ў параўнанні з мінулымі гадамі стала на Беларусі больш цяжкім, але не такім ужо, што немагчыма жыць. Адчуваецца стомленасць беларусаў, і ў той жа час яны не губляюць веру, што гэтыя цяжкасці мінуць і жыццё наладзіцца...

Мне здаецца, што сродкі масавай інфармацыі таксама ўносяць свой "вклад" у разгубленасць народа. Безумоўна, не патрэбны тыя бадзёрыя рапарты, што былі зусім нядаўна, але паказваць усё ў чорным колеры няма патрэбы. Дарэчы, я быў шчыра здзіўлены тым, што, нягледзячы на ўсё, у нас у Жлобіне не спыняецца жыллёвае будаўніцтва, існуе мастацкая самадзейнасць, ды і людзі, асабліва маладыя, па-сучаснаму апрануты.

Праўда і тое, што жыццё ў Расіі трохі лепшае, чым у Беларусі. Гэта добра відаць на прыкладзе горада, дзе я зараз жыву. Тут шмат магазінаў як прыватных, так і дзяржаўных. У большасці іх прадаўцы вельмі ўважлівыя і спагадлівыя. Абавязкова падзякуюць за пакупку і запросяць заходзіць. У розных формах уласнасці, да якіх належаць магазіны, розныя цэны. Адным словам, ідзе барацьба за пакупніка. Я ўжо не гавару аб тым, з якім густам аздоблены магазіны. Некаторыя могуць нават паспрачацца з буйнымі гарадамі накшталт Гомеля.

Паўтараю зноў. Свет у канцы тунеля павінен быць...

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**
Манчагорск,
Мурманская вобласць.

# СЯМ'Я МІХАІЛА ЦАЛУЙКІ

**Як безнадзейна цяжка складваюцца часам людскія лёсы! І толькі дабрыня і спагада тых, хто побач, могуць дапамагчы выжыць, паставіць на ногі нават, здавалася б, безнадзейна хворых. Міхаіл Цалуйка быў курсантам Вышэйшага адэскага мараходнага вучылішча. Але хвароба прыкавала яго да ложка, і ўвесь клопат па догляду за бездапаможным сынам лёг на слабыя плечы старой маці, якая не ў стане была справіцца і з горам, і з новымі непасільнымі клопатамі. Міхаіл угаварыў маці змясціць яго ў дом-інтэрнат у вёсцы Дуянаўка на Гомельшчыне. Але і там жыццё бездапаможнага чалавека было цяжкім.**

**Як тапелец за саломінку, ухапіўся Міхаіл за думку даць аб'яву ў абласной газеце, прасіў дапамагчы цяжкахвораму, а ўзамен абяцаў завяшчаць сваю аднапакаёвую гомельскую кватэру. На яго зварот адгукнулася маладая прыгожая Таццяна. Яна не толькі даглядала Міхаіла, але змагла ўдыхнуць надзею ў чалавека, які амаль развітаўся з жыццём. Хлопец падужэў і духам, і целам, на твары з'явіліся першыя праблескі ўсмешкі.**

**Таццяна вырасла ў вёсцы на Палессі, у мнагадзетнай сям'і. Да цяжкасцей прывыкла з дзяцінства. Сама гадавала сына. І цяпер сямігадовы Андрэй называе Міхаіла татам. А маці Мішы нядаўна памерла, нібы пераканаўшыся, што сын трапіў у надзейныя рукі...**



**НА ЗДЫМКУ: сям'я Міхаіла ЦАЛУЙКІ.**

Фота
**Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ВАЙНА: ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ

# ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ

Звесткі аб гэтым перыядзе хаосу ўрывачныя, і цяжка сказаць, колькі было тых, хто супраціўляўся вяртанню.

Не ўсе з гэтых двух мільёнаў маглі бы даказаць сваю поўную недатычнасць да якога б там ні было супрацоўніцтва з ворагам. Толькі нямногія вынеслі выпрабаванні ў нямецкіх лагерах і правялі ўсе гэтыя гады палонення, ніяк не дапамагаючы варожай ваеннай машыне. Для большасці з іх супрацоўніцтва абмяжоўвалася толькі тым, што яны выконвалі брудную ці небяспечную работу ў абмен на крыху лепшыя, чым у лагерах, харчаванне і ўтрыманне. Але з іншымі справа была горшая. Сотні тысяч савецкіх грамадзян добраахвотна і з энтузіязмам змагаліся на баку немцаў. У хаосе майскіх і чэрвеньскіх дзён 1945 года многія з іх спрабавалі змяшацца з групамі перамешчаных асоб. Пры некаторым шанцаванні яны маглі б вярнуцца дамоў і ніхто не даведаўся б аб іх дзейнасці. У гэтыя тыдні трэба было зрабіць цяжкі выбар. Што яны маглі выбраць? Адправіцца дамоў і спадзявацца на лепшае? Уцячы і спрабаваць застацца ў Германіі? У любым выпадку шанцы на поспех здаваліся нязначнымі.

Паведамленне ў газеце "Нью-Йорк таймс" паказвае, як мала спачування зведвалі людзі на Захадзе да рускіх, якія перайшлі на бок ворага. У ім паведамлялася, што "рускія здраднікі ў колькасці ад 100 да 150 тысяч, што ўтрымліваліся як ваеннапалонныя, магчыма паўстануць перад савецкім судом". На прэс-канферэнцыі 8 чэрвеня генерала Амара Брэдлі спыталі аб савецкіх заявах наконт дрэннага абыходжання з іх грамадзянамі ў амерыканскіх лагерах. Яго адказ быў загадкавым: "У нас ёсць рускія, але я не думаю, што Расія можа скардзіцца на наша абыходжанне з імі. Мы захапілі ад 100 да 150 тысяч рускіх, што змагаліся на баку немцаў. Я перакананы, што гэтых людзей нічога добрае не чакае".

Генерал Брэдлі меў рацыю...

## 3. ВАЙНА ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Яшчэ зусім нядаўна ніхто не ведаў, што лагеры Бухенвальд і Заксенхаўзен -- гэтыя, можна сказаць, сімвалы, што ўвасаблялі ў свядомасці савецкага чалавека нацысцкую сістэму, аказваецца, не спынілі свайго існавання ў 1945-м, а "прапрацавалі" аж да 1950-га года.

У гэтым працэсе немалаважную ролю адыгралі так званыя спецлагеры, арганізаваныя ў 1945-м сіламі НКУС адразу ж пасля ўступлення ў Германію Чырвонай Арміі, часцей за ўсё непасрэдна ў былых нацысцкіх лагерах і канцлагерах (усяго 9 плюс дзве турмы). Падпарадкоўваліся яны аддзелу спецлагераў на тэрыторыі Германіі, які быў створаны загадам НКУС N 00315 ад 15 красавіка 1945 года. Аж да 1948 года, калі аддзел быў перападпарадкаваны ГУЛАГу, непасрэднае кіраўніцтва ажыццяўляў намеснік міністра МУС СССР генерал-палкоўнік Іван Сяроў, легенда савецкіх карных органаў. Здаецца, ніводная буйная акцыя не праходзіла без яго ўдзелу. Кадры камплектаваліся з "СМЕРШа" 1-га Беларускага фронту.

У спецлагеры інтэрніраваўся так званы спецкантынгент -- галоўным чынам, грамадзянскія асобы, якія актыўна падтрымлівалі нацысцкі рэжым альбо якія займаліся шпіёнска-дыверсійнай і тэрарыстычнай дзейнасцю, супрацоўнікі гестапа і СД. Натуральна, не былі забыты і нашы суграмадзяне.

Статыстыка сведчыць, што працэнт людзей, так ці інакш вінаватых, быў у гэтых лагерах сапраўды вялікі. Але вядомых нацыстаў сярод іх было мала, а па-сапраўднаму буйныя фігуры і зусім не значыліся: яны альбо хаваліся на Захадзе, альбо атрымалі прыгавор ваеннага трыбунала і былі дэпартаваны ў СССР. У асноўным траплялася сярэдняя і дробная рыбінка, саджалі нанава і былых ваеннапалонных, выпушчаных з лагераў саюзнікаў, -- як правіла, па абвінавачванню ў шпіянажы. Увогуле з пачаткам "халоднай вайны" людзей, арыштаваных за шпіянаж і асуджаных па 58-м артыкуле КК РСФСР, станавілася ўсё больш, а па меры таго як раскручваўся махавік неправавой сістэмы, саджалі і ўдзельнікаў антыфашысцкага Супраціўлення. Вядомыя выпадкі, напрыклад, калі да 1945-га людзі сядзелі ў адным, а пасля 1945-га -- у іншым Бухенвальдзе.

У хвалю арыштаў траплялі нямецкія сацыял-дэмакраты, незадаволеныя зліццём іх партыі з камуністамі, праследаваліся і члены іншых партый, у тым ліку і камуністы, нязгодныя з новым рэжымам.

Асобую групу сярод арыштаваных складала моладзь, фактычна падлеткі. Іх, як правіла, саджалі па падазрэнню ў прыналежнасці да так званага "вервольфа". Гэтая арганізацыя была створана нацыстамі ў апошнія месяцы вайны для падрыўных партызанскіх дзеянняў, але яна не мела ні таго распаўсюджання, ні таго значэння, якое прыпісвалася ёй НКУС. Міф аб "вервольфе" быў такі моцны, што нават па нязначнаму даносу арыштоўваліся цэлыя школьныя класы. Тысячы падлеткаў ад 12 да 18 гадоў былі кінуты ў лагеры -- не ў спецыяльныя калоніі, а менавіта ў спецлагеры разам з сапраўднымі вінаватымі, дзе многія з іх загінулі ад голаду і хвароб. Іх лёс -- бадай, самае цяжкае ў гэтай гісторыі: учарашнія дзеці сталі ахвярамі двух таталітарных рэжымаў.

Акрамя таго, праз спецлагеры прайшлі і тысячы іншаземцаў, перамешчаных асоб, нашых суайчыннікаў -- былых усходніх рабочых, рускіх эмігрантаў... Для іх гэта былі перавалачныя пункты, іх чакала дэпартацыя ў СССР.

Нельга забываць і пра тое, што толькі на тэрыторыі Германіі было створана каля ста праверачна-фільтрацыйных лагераў. Усе савецкія грамадзяне, якія былі на акупіраванай тэрыторыі; у лагерах для ваеннапалонных ці ж вывозіліся, ці ехалі добраахвотна на работу ў Германію, пры вяртанні ў СССР праходзілі праверку ў гэтых лагерах. На іх заводзіліся анкеты, а потым у многіх выпадках да анкет дабаўляліся нейкія матэрыялы, і так утвараліся праверачна-фільтрацыйныя справы. На жыхароў Беларусі яны сёння знаходзяцца на захоўванні ў КДБ Беларусі.

Акрамя таго тут знаходзяцца карткі і іншыя ўліковыя матэрыялы, узятыя Савецкай Арміяй з нямецкіх лагераў. Гэтыя карткі былі раскасіраваны і разасланы ў тыя вобласці рэспублікі, адкуль чалавек прызываўся ў армію, ці туды, дзе ён нарадзіўся. Многія з іх так і не знайшлі свайго прымянення, таму што большасць нашых землякоў не вярнулася дамоў і праверачна-фільтрацыйныя справы на іх не былі заведзены.

Арышты праводзіліся спачатку групамі "СМЕРШа", а потым спецгрупамі НКУС, што дзейнічалі ў Германіі паўсюдна. Арыштоўвалі непасрэдна ў былых нямецкіх лагерах, на вуліцы, на працы, у магістраце, куды выклікалі нібыта для рэгістрацыі. Як правіла, ніякага расследавання не праводзілася, ды ў ім і не было патрэбы, бо тыя, хто накіроўваўся ў спецлагеры па загаду 00315, забіраліся ў асобым парадку. Ім не прад'яўлялася абвінавачванне, а таму не было неабходнасці ні ў санкцыі ваеннага пракурора, ні ў следчых матэрыялах.

У КПЗ ператвараліся не толькі былыя паліцэйскія ўчасткі, але і гаражы, падвалы, хлявы. Сродкі выкарыстоўваліся звычайныя: пабоі, кругласутачныя допыты, пагрозы расстрэлу.

Спецлагеры ўтрымліваліся ў рэжыме самай строгай сакрэтнасці -- нават нашай роднай савецкай авіяцыі забаранялася рабіць над імі палёты: маглі ж сфатаграфаваць з паветра...

Катэгарычна забаранялася перапіска са сваякамі. Да 1948 года, калі на свабоду пачалі выпускаць першыя групы зняволеных, сем'і практычна нічога пра іх не ведалі.

Інтэрніраваным не дазвалялася слухаць радыё, аж да 1947 года чытаць газеты і, у залежнасці ад лагера, спяваць, пісаць, чытаць, маляваць, пакідаць баракі, дыскутаваць на палітычныя тэмы і г.д.

Знешнюю ахову забяспечвалі часці МУС, аднак унутрылагерны парадак падтрымліваўся лагернымі фарміраваннямі з зняволеных, і, вядома, нярэдка гэта былі крымінальнікі.

У спецлагерах у Германіі не было ні катаванняў, ні масавых забойстваў. Аднак смяротнасць была надзвычай высокай: голад і холад. Толькі нямногія мелі цёплыя рэчы -- у чым арыштоўвалі, у тым і сядзі. У Бухенвальдзе і Заксенхаўзене зняволеныя насілі паласатае адзенне, што засталося ад вязняў нацысцкіх канцлагераў.

Асабліва цяжкімі былі 1946 і 1947 гады. З лістапада 1946-га нормы харчавання рэзка зменшыліся: 300 грамаў хлеба і міска пустой баланды -- такі быў штодзённы рацыён у лагеры. З-за голаду, антысанітарыі і скучанасці пачаліся эпідэміі -- тыф, туберкулёз. Становішча было настолькі цяжкім, што нават лагерная медыцына была вымушана канстатаваць: "...становішча ў лагеры з захворваннем на туберкулёз лёгкіх і аліментарную дыстрафію катастрафічнае. Захворванне на туберкулёз -- 30 працэнтаў усяго спецкантынгенту, 11,3 працэнта з аліментарнай дыстрафіяй... усяго хворага спецкантынгенту 46,3 працэнта".

Пералом адбываецца к канцу 1948 года. Пачынаецца паступовая ліквідацыя спецлагераў. У 1950 годзе закрываюцца апошнія -- Бухенвальд, Заксенхаўзен. Выпушчаныя з савецкіх канцлагераў, калі толькі яны не пайшлі на Захад, павінны былі маўчаць пра тое, што з імі было. А каб яны нічога не расказалі, іх адпраўлялі ўжо ў лагеры ГУЛАГа на тэрыторыю СССР. Усяго ў спецлагерах на тэрыторыі Германіі, паводле папярэдніх даных, утрымлівалася каля 200 тысяч вязняў, памерла з іх прыблізна 50 тысяч, 756 прыгавораны ваенным трыбуналам да пакарання смерцю. Больш за 130 тысяч з агульнай колькасці былі савецкімі грамадзянамі.

Сярод іх было нямала і ўраджэнцаў Беларусі, але ўстанавіць нават прыблізна іх колькасць немагчыма. Праўда, на гэта і іншыя пытанні могуць адказаць архівы КДБ.

Мы ж можам аднавіць у памяці лёсы асобных з іх. Звернемся хаця б да аднаго... Нарадзіўся ў пачатку стагоддзя ў Мінску ў сям'і чыгуначніка. Тут жа прайшло дзяцінства і юнацтва Антона Каласоўскага. Прызваны ў 39-м па загаду наркома абароны ў дзеючую армію, ён стаў артылерыстам, камандзірам узвода і, нарэшце, разведчыкам. Нямецкая мова, разрады па боксу і плаванню, валоданне стралковай зброяй, аўтамабілем, уменне ўжыцца ў іншы вобраз -- перадумовы класнага разведчыка. Вайна заспела яго, радавога, на граніцы, у Гродне: абарона Нёмана -- нямецкія танкі, прынятыя спачатку за нашы, пераправіліся і раптам паперлі; раненне ў нагу, шпіталі, эвакуацыя, бамбёжкі, зноў фронт; удзельнічаў у "аперацыі па поўнаму і канчатковаму вызваленню Украіны ад гітлераўскіх захопнікаў" -- так афіцыйна называліся бязглуздыя дзеянні, падтрыманыя Сталіным, што адкрылі шлях праціўніку на Волгу, прывялі да трагедыі ў харкаўскім катле, мелі вынік -- знішчэнне трох армій; зноў быў паранены, трапіў у палон, уцёк, зноў быў схоплены, уцёк з-пад расстрэлу; у канцлагеры ў Эсене перажыў пекла -- бамбардзіроўку саюзнікамі крупаўскіх заводаў; актыўна дзейнічаў у аўстрыйскім Супраціўленні... Спынімся на гэтым. Такі агульны план. Патрабуецца буйны.

Страціўшы ў крывавай кашы адступлення з харкаўскага катла сувязь з камандаваннем, не атрымаўшы разведзадання, Антон Каласоўскі даў сабе заданне сам, сам знайшоў сувязі і далей дзейнічаў згодна з распараджэннем і сваім разуменнем у тыле праціўніка. Чым жа ён займаўся? Збіраў весткі аб узбраенні, што праводзілася ў Эсене; вывядзенні са строю сістэмы пажарнай бяспекі на заводах Крупа перад паветранымі налётамі, што чакаліся; шукаў даныя аб складзе і месцы вырабу аднаго з кампанентаў гаручага для новай зброі гітлераўцаў "Фау-1" і "Фау-2" і інш.

Антон Каласоўскі працаваў, зразумела, не адзін. Ён уваходзіў у антыфашысцкі ланцуг, робячы справы з дапамогай антыфашыстаў і ў дапамогу ім. Адразу ж пасля вызвалення Вены ён трапіў у лапы "СМЕРШа", акрамя яго там апынулася нямала яго ўчарашніх саратнікаў па антыфашысцкай барацьбе. Спачатку паведамілі, што іх адправяць у Маскву. Можна ўявіць, пра што думаў малады разведчык. Калі не пра ўзнагароду, то пра падзяку абавязкова. Таму што апрача іншага, менавіта яны выратавалі Вену ад разбурэння, менавіта яны забяспечылі ўзяцце горада малой крывёю, захаваўшы тысячы жыццяў.

Пасля допыту смершаўцам, які суправаджаўся лаянкай, знявагай, пагрозай расстрэлу і дэманстратыўным знішчэннем дакументаў аб дзейнасці баявых груп, Антона кінулі ў падвал з бурымі плямамі на сценах -- слядамі катаванняў.

Калі ён хацеў жыць, яму трэба было маўчаць. Ён павінен быў забыць і пра харкаўскую трагедыю, і пра бамбёжку саюзнікамі завода Крупа, і ўжо, вядома ж, прытрымлівацца афіцыйнай версіі "СМЕРШа" наконт венскай аперацыі.

Жыццё складвалася так. Да звальнення з арміі -- аднаўленне вугальных шахт Данбаса. Далей Урал, баракі, дзе воінская павіннасць плаўна перайшла ў звычайную працоўную; аб'ява аб дэмабілізацыі і -- спіс размеркавання па шахтах. Далей Масква, Лефортаўская турма і дзесяць гадоў лагераў ад Асобай камісіі ў складзе Абакумава, Алферава, Мяркулава -- за здачу нібыта ў палон і за ўсё астатняе. Потым доўгія гады знаходжання ў Сіблагу, вызваленне, рэабілітацыя... Апошні раз мне давялося гутарыць з гэтым цудоўным чалавекам у Новасібірску ў 1989 годзе. У снежні 1990 года ён раптоўна памёр...

І гэта толькі адзін лёс на агульным фоне тысяч трагедый. Трэба толькі трымацца. Вось і ўсё. Гэта робіць жыццё асэнсаваным і маладым. Назаўсёды.

Гавораць, боль, як і радасць, на ўсіх адзін. І ўсё-такі, хоць крайне марудна, памяць вяртаецца да нас.

Што ж, Гісторыя заўсёды справядлівая. У рэшце рэшт менавіта яна і толькі яна расстаўляе акцэнты, устанаўлівае імёны сапраўдных герояў, вяртае памяць аб іх.

Бадай, цяжка вызначыць, колькі радасці і колькі горычы ў вяртанні гэтай праўды. Ды і не ў гэтым сутнасць. Галоўнае, што, аднойчы перажыўшы боль страты блізкіх, мы перададзім гэтыя веды сваім дзецям і ўнукам як самы важны, самы каштоўны дар. І няхай у душах і сэрцах іх вечна гарыць агонь Памяці. І няхай нішто падобнае больш ніколі не паўторыцца.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 7, 8.**

*З АЎСТРАЛІІ*

## ЗВАРОТ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ

Ад імя XI з'езда дэлегатаў Федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі пастанавілі прывітаць Вас, паважаны спадар Прэзідэнт, і звярнуцца да Вас з заклікам спыніць расійскую каланіяльную палітыку, якую праводзяць варожыя сілы на нашай шматпакутнай Бацькаўшчыне.

Суверэнітэт Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Да гэтага часу ў заканадаўчай уладзе, якой з'яўляецца Вярхоўны Савет, знаходзіцца элемент, які ўсялякімі спосабамі намагаецца знішчыць нашу незалежнасць.

Асноўным законам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Канстытуцыя 1994 года, дзе выразна ў артыкуле 17-м зазначана: "Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова". І толькі беларуская.

Наш гістарычны герб ёсць і назаўсёды будзе слаўная "Пагоня". Бел-чырвона-белы сцяг! І будзем спадзявацца, што нацыянальным гімнам Беларусі канчаткова застанецца наш ужо гістарычны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Мы спачуваем цяжкаму эканамічнаму стану, у якім апынулася Беларусь, у дадатак чарнобыльская бяда, і па меры нашых магчымасцей стараемся дапамагчы, дзе можам.

Мы супраць усялякіх варожых пагадненняў, якія пагражаюць суверэнітэту Беларусі, і асабліва небяспечных пагадненняў з Расійскай Федэрацыяй у абаронным напрамку.

Мы катэгарычна супраць уз'яднання Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй. Узброеныя сілы чужых краін павінны пакінуць Беларускую зямлю, у іншым выпадку Беларусь апыніцца зноў у прыгоне маскоўскай імперыі.

Мы звяртаемся да Вас і ўрада Рэспублікі Беларусь з прапановай прыкласці ўсе намаганні і ўз'яднаць этнаграфічныя беларускія землі ў межах Рэспублікі Беларусь, нягледзячы на змовы ці здзелкі, якімі гэтыя землі былі адарваны ад нашай дзяржавы.

Вы дастойны Прэзідэнт, выбраны беларускім народам бараніць правы і годнасць нашага народа, і таму мы звяртаемся да Вас, каб Вы прыклалі ўсе высілкі, каб наша дзяржава была годным сябрам усіх дэмакратычных дзяржаў свету і мы тут на чужыне ганарыліся, што мы таксама з'яўляемся часткай гэтага слаўнага народа.

Жыве Беларусь!

**Прэзідыум XI з'езда**
**А.ГРУША,**
**старшыня,**
**П.ГУЗ,**
**сакратар,**
**А.ШНЭК,**
**сябра.**

21 студзеня 1995 г. Мельбурн.

## З ВІЛЕНШЧЫНЫ

**На пачатку лютага, як вядома, адбыўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Літву. Віленскія беларусы мелі магчымасць, так бы мовіць, зблізку ўбачыць нашага Прэзідэнта і нават кантактаваць з ім. Можа, яны ўбачылі іншага Аляксандра Лукашэнку, не такога, якога бачаць у Мінску! Пачытайце рэпартаж нашага карэспандэнта, не пашкадуйце на гэта часу.**

# СУСТРЭЧА З ПРЭЗІДЭНТАМ

Прыезд Прэзідэнта Беларусі ў Вільню для заключэння Дагавора аб дзяржаўнай мяжы і добрасуседскіх адносінах з Літоўскай Рэспублікай стаў немалаважным здарэннем для беларусаў Віленшчыны. Амаль трохдзённы дзелавы візіт не перашкодзіў Прэзідэнту сустрэцца з інтэлектуальным грамадствам Вільні.

Сустрэча адбылася ў канцы другога дня побыту Прэзідэнта ў Літве, у зале пасольства Рэспублікі Беларусь. Прасторнае памяшканне ледзь змясціла прадстаўнікоў беларускіх арганізацый, літоўскіх сяброў і запрошаных гасцей. Прыход Прэзідэнта прысутныя віталі гучнымі воплескамі. Суправаджалі яго віцэ-прэм'ер -- У.Русакевіч, загадчык Управы справамі адміністрацыі Прэзідэнта І.Ціцянкоў, вядучы інспектар Міністэрства адукацыі -- Г. Пяцігор і іншыя.

Пэўная насцярожанасць і афіцыйнасць хутка ператварыліся ў даволі цёплыя і шчырыя адносіны. Сам факт прамовы Прэзідэнта на добрай (без акцэнту) беларускай мове выклікаў шчырасць і ўзаемны давер. Далейшая гутарка пацякла зусім свабодна. І зрэдку ўстаўляемыя Прэзідэнтам расійскія фразы не "ахаладзілі" гэтай атмасферы да канца сустрэчы.

"Шаноўныя суайчыннікі і паважаныя госці! -- распачаў Прэзідэнт прамову. -- Я вельмі ўдзячны за запросіны сустрэцца з вамі. Візіт наш у Літву мае асаблівае значэнне. Яго галоўная мэта -- падпісанне двухбаковага Дагавора аб дзяржаўнай мяжы. Завершана трохгадовая праца груп экспертаў адносна многіх пытанняў, на аснове ідэй, закладзеных яшчэ ў Дэкларацыі аб прынцыпах добрасуседскіх адносін між Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай, якія адлюстраваны ў палітычным Дагаворы.

Гэта суверэнная роўнасць, неўжыванне сілы альбо пагрозы сілай, непарушнасць граніц, тэрытарыяльнай цэласнасці, мірнае рэгуляванне спрэчак, неўмяшанне ва ўнутраныя справы, пашана правоў чалавека і асноўных свабод, узаемавыгаднае супрацоўніцтва і сумленнае выкананне правіл міжнароднага права. Тры вялікія артыкулы Дагавора прысвечаны правам асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцяў".

Далей Прэзідэнт падкрэсліў, што Дагавор замацоўвае права захоўваць і развіваць самабытнасць без усякай дыскрымінацыі, адпаведна з прынятымі законамі.

Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка імкнуцца зберагчы самабытнасць свайго насельніцтва, у тым ліку навучанне на роднай мове. Улічваючы натуральны патрыятызм людзей, дзяржаўныя ўлады Беларусі і Літвы будуць уважліва адносіцца да просьбаў нацыянальных суполак і дапамагаць ім. Кіраўніцтва Беларусі спадзяецца на актыўнасць гаспадарнікаў-беларусаў Літвы. Іх дзейнасць у падтрымку беларускіх асветных арганізацый знойдзе падтрымку беларускага ўрада. Будзе разглядацца пытанне візавых льготаў, каб не ізаляваць людзей, не разлучаць іх са сваякамі. Бо гэта магло б выклікаць настроі пра тэрытарыяльныя прэтэнзіі. Будзем старацца стварыць такія ўмовы, каб любы грамадзянін Літвы мог свабодна наведаць Рэспубліку Беларусь, а грамадзянін Беларусі -- Літоўскую Рэспубліку, асабліва Вільню -- крыніцу нашай культуры. Тут жылі і працавалі Максім Гарэцкі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Браніслаў Тарашкевіч і шмат іншых ахвярных беларускіх патрыётаў.

Выкананне Закона аб мовах на Беларусі выразна наглядаецца ў галіне адукацыі. Сёння на беларускай мове вучыцца 70 працэнтаў І-ІІ класаў і 50 працэнтаў пачатковых школ. Паступова ўводзіцца родная мова і ў вышэйшых навучальных установах. Каб быць прынятым у любую вышэйшую школу, трэба здаць экзамен па беларускай мове. Да 2000 года павінен адбыцца поўны пераход навучання на беларускую мову. Каб дасягнуць гэтага, прыходзіцца пераадольваць нямала перашкод, псіхалагічныя бар'еры, каб належна адрадзіць родную мову, культуру і ўзмацніць суверэнітэт дзяржавы.

Заканчваючы сваю прамову, Прэзідэнт адзначыў: "Я вам абяцаць не буду. Я буду рабіць ўсё магчымае для адраджэння нацыі і незалежнасці дзяржавы".

Прэзідэнт выказаў надзею, што беларускае насельніцтва Літвы не будзе тут адчуваць сябе чужым. І што беларусы



Літвы зразумелі і будуць разумець Прэзідэнта Беларусі.

Адносна роднай мовы Прэзідэнт патлумачыў — ясніў, што ён атрымаў адукацыю ў рускай школе і цяпер яму не адразу ўдаецца гаварыць на чыстай беларускай літаратурнай мове. А ў сённяшняй сітуацыі даводзіцца ўсё рабіць, каб людзі не галадалі, каб яны былі адзетыя і абутыя, каб расло збожжа і множылася жывёла, -- а тады ўжо сесці за парту.

Прэзідэнт выказаў перакананне, што ў справах мовы не трэба ціснуць на людзей (асабліва пажылых). Родную мову будзем падтрымліваць і развіваць, але разумна, асцярожна. Таксама не пагаджаецца Прэзідэнт з тымі, хто сёння крычыць, што ўсё "рухнула" і "прапала". Падобная паніка падымаецца ў сувязі з выбарамі, якія набліжаюцца. А народ як працаваў, так працуе. І паказваюцца на гарызонце доказы таго, што, магчыма, ужо ў сакавіку-красавіку пачнецца гаспадарчая стабілізацыя.

Між іншым, на навуку і культуру беларускае кіраўніцтва цяпер больш даплачвае, чым Літва.

Пасля прамовы Прэзідэнта пасыпаліся пытанні і заўвагі. Вось некаторыя з іх. Знаны працаўнік з галіны адукацыі -- Тацціяна Каротчанкава (Поклад) выказала занепакоенасць, што згодна з пісьмом Міністэрства асветы і культуры Літвы забараняецца прыём заяў моладзі ў Педагагічны універсітэт (беларускі факультэт). Гэта раўназначна ліквідацыі гэтага факультэта. Дзе ж тады будзем браць кадры настаўнікаў для беларускіх садзікаў і школ?

Прэзідэнт абяцаў заняцца гэтым пытаннем. Бо сапраўды падобны крок не можна назваць добрасуседскім.

Дырэктар беларускай школы Галіна Сівалава перадала Прэзідэнту заяву бацькоў і вучняў з просьбай інтэрвенцыі ў гэтай справе.

На просьбу В.Стэха ("Сябрына") аб садзейнічанні ў справе беларускіх перадач з Мінска ў Літву Прэзідэнт згадзіўся дапамагчы.

У закранутым пытанні адносін Прэзідэнта да эміграцыйнага ўрада БНР Прэзідэнт сказаў, што ахвотна прыме дэлегацыю БНР у Мінску, ён не супраць такой сустрэчы.

Прысутныя выказалі шчырую падзяку Прэзідэнту за сустрэчу і дапамогу для беларускай школы.

# ДАРЫ ПРЭЗІДЭНТА

Цёпла і шчыра былі сустрэты прадстаўнікі Прэзідэнта ў Віленскай беларускай школе. Гэтая сустрэча адбылася 7 лютага, назаўтра пасля сустрэчы з Прэзідэнтам у беларускім пасольстве. Адной з прычын такога настрою быў багаты падарунак для школы. Бедная дагэтуль беларуская школа раптам значна пабагацела. У найбольшым у школе класе красаваліся прыгожа расстаўленыя глобусы, мікраскопы, школьныя падручнікі, гербарыі, абсталяванне кабінета інфарматыкі.

Гэты так патрэбны для школы падарунак Прэзідэнта стварыў прыўзняты настрой, і перапоўненая школьная зала літаральна выбухнула апладысментамі, калі з'явіліся мінскія госці-мецэнаты.

Ганаровыя месцы занялі намеснік прэм'ер-міністра Русакевіч У., загадчык Управы справамі адміністрацыі Прэзідэнта -- Ціцянкоў І., вядучы інспектар Міністэрства адукацыі Пяцігор Г., пасол Беларусі ў Літоўскай Рэспубліцы -- Вайтовіч Я. А таксама літоўскія госці: Вітаўтас Толейкіс і Алдона Кодзіце з аддзела нацыянальных меншасцяў, Енас Людкявічус -- намеснік загадчыка віленскага гарана, а таксама прадстаўнікі беларускіх суполак Віленшчыны, педагогі і бацькі вучняў.

Пасля прывітання і падзякі літоўскім уладам за дапамогу і гасціннасць віцэ-прэм'ер Беларусі выказаў шчырае задавальненне, што можа перадаць беларускай школе прывітанне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама яго падарункі, якія дапамогуць педагогам і навучэнцам у здабыванні ведаў і спецыяльнасцей.

У адказ загучала бура воплескаў і шчырыя словы падзякі. Юныя дзяўчаткі адарылі прадстаўнікоў беларускіх уладаў і літоўскіх гасцей прыгожымі серабрыстымі букетамі кветак.

У шчырай сяброўскай гутарцы, у якой прынялі ўдзел старшыня бацькоўскага камітэта Шміт Таццяна, старшыня ТБК Нюнька Хведар, Вітаўтас Толейкіс, Алдона Кодзіце, дырэктар школы Галіна Сівалава, Вітушка Сяргей і іншыя педагогі, была закранута пагроза ліквідацыі нядаўна адкрытага пры Педагагічным універсітэце беларускага факультэта; неабходнасць (для адраджэння беларусаў Віленшчыны) больш рэальнай дапамогі з боку метраполіі, а таксама пашырэння кантактаў і ўзаемнай інфармацыі.

Спадар Русакевіч паінфармаваў, што на працягу двух дзён візіту Прэзідэнта вырашана многа важных і пільных спраў. Віцэ-прэм'ер цвёрда заявіў, што зроблены патрэбныя захады, каб беларускі факультэт пры Педагагічным універсітэце не ліквідаваўся. Добразычлівыя адносіны суседзяў павінны пацвярджацца справамі.

Педагогі шчыра падзякавалі прадстаўнікам беларускага кіраўніцтва і паважаным, дастойным дыпламатам у Вільні за добразычлівыя адносіны і дапамогу ў цяжкіх момантах дзейнасці школы.

Мінскія і мясцовыя госці агледзелі памяшканне школы, яе кабінеты, класы, агульны стан будынка і пасля кароткага адпачынку пры шклянцы гарбаты развіталіся.

# АДКРЫТЫ ШКОЛЬНЫ МУЗЕЙ

Энтузіясты-педагогі, бацькі вучняў і самі віленскія школьнікі вырашылі адкрыць у роднай школе вучнёўскі музей, у якім была б паказана культура і дзейнасць беларусаў на працягу доўгіх вякоў іх жыцця на гэтай зямлі.

Напачатку сабраны для школьнага музея старыя віленскія выданні кніг -- Максіма Гарэцкага, Наталлі Арсенневай, Максіма Танка, Вінцука Грышкевіча, Анцукевіча, Нэканда-Трэпкі і іншых беларускіх паэтаў і празаікаў. Акрамя таго, ручныя работы (мастацкія!) на палатне, з гліны і дрэва ды іншых матэрыялаў падрыхтаваны ўзбагаціць паліцы музея.

У іншым (класным) памяшканні наладжана невялічкая выстаўка памяці нядаўна памёршай Зоі Каўшанкі (Кратовіч).

К дзевятай гадзіне раніцы з'явіліся запрошаныя госці, у тым ліку прадстаўнікі пасольства Беларусі -- саветнік Уладзімір Шчасны і Яўген Шастакоў, усе педагогі, ветэраны (некалькі былых выпускнікоў Віленскай беларускай гімназіі) і бацькі вучняў. Запоўненая зала горача іх прывітала, а школьніцы ўручылі гасцям кветкі... Навучэнцы (каля 140 чалавек) уважна слухалі выступаючых на спатканні гасцей, прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Вільні, даўнейшых педагогаў.

Вёў праграму выкладчык гісторыі -- Сяргей Вітушка. Адкрываючы сустрэчу, ён нагадаў, што ўпершыню школа адзначае "Дзень гімназіі" і адначасова адкрыццё школьнага музея. У будучыні "Дзень гімназіі" будзе адзначацца кожны год. Як вядома, сённяшняя школа з'яўляецца спадкаемніцай Віленскай беларускай гімназіі, якая, як і Навагрудская гімназія, узгадавала нямала выдатных вучоных, мастакоў, педагогаў і грамадскіх дзеячаў.

Саветнік пасольства -- спадар Шчасны падкрэсліў, што ў часе складаных сітуацый пры парушанай стабільнасці важную ролю адыгрывае традыцыя. І вельмі добра, што сённяшняя школа ўзмацняе традыцыі пераемнасці беларускіх навуковых устаноў на Віленшчыне.

Асабліва, улічваючы той факт, што Віленская беларуская гімназія была кузняй талентаў і дастойных, самаахвярных дзеячаў, вядомых не толькі ў сваім краі, але і далёка па-за межамі Беларусі і Літвы. Саветнік пажадаў навучэнцам добрых поспехаў і актыўнай творчай працы.

Дырэктар школы Галіна Сівалава ўспомніла пра немалыя цяжкасці і перашкоды на пачатку арганізацыі школы і выказала надзею, што сённяшняя дэмакратычная Літоўская дзяржава будзе для беларускіх школ роднаю маткай, а не мачахай. Бо беларусы Віленшчыны актыўна падтрымалі літоўскі народ у барацьбе за незалежнасць. І будуць падтрымліваць.

У выступленнях Х.Нюнькі, Л.Луцкевіча, А.Анішчыка і іншых была падкрэслена роля музея і ўпэўненасць, што перашкоды шавіністычна-імперскіх "дзеячаў" будуць пераадолены разумнымі, дэмакратычнымі сіламі народаў. І нацыянальныя школы ўсіх узроўняў будуць на Віленшчыне развівацца так, як ва ўсім дэмакратычным свеце. Мы не горш працуем, чым іншыя нацыянальнасці, і ўклад беларусаў у скарбніцу літоўскай дзяржавы не меншы, чым любой іншай нацыі.

Вельмі цёпла былі прыняты прысутнымі дэкламацыі навучэнцамі твораў Н.Арсенневай, М.Танка ды іншых беларускіх паэтаў.

Карысная і цікавая сустрэча адбылася з вучнямі 9-га ды іншых старэйшых класаў. Госці і юныя школьнікі абмяняліся думкамі ў галіне педагогікі, грамадскіх ды іншых праблем.

Пакідалі мы школу з радасным і крыху сумным настроем. Цешыліся поспехамі цудоўнага чалавека -- дырэктара Сівалавай, педагогаў Яраслава Станкевіча, Паўла Саўчанкі, Яцкявічэне Рамуальды, Базюк Алены, Уладзіміравай Зоі, Базар Дануты, Івановай Валянціны, Слесаравай Ларысы, папулярнага Сяргея Вітушкі ды іншых старанных, адданых сваёй працы настаўнікаў.

**Адначасова неадчэпна паўставала пытанне -- чаму тысячы іншых дзяўчатак і хлопцаў беларускага насельніцтва Віленшчыны пазбаўлены роднай школы, пазбаўлены магчымасці свабодна і паспяхова развіваць свае таленты на роднай мове?.. Чым яны горшыя за палякаў, расейцаў ці іншыя нацыянальнасці гэтага краю?!**

**Адганяем гэтыя думкі і верым, што праблема навучання на роднай мове ў пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школах будзе пазітыўна вырашана дэмакратычным урадам Літвы так, як яна вырашана ва ўсіх перадавых краінах цывілізаванага свету, насуперак намаганням шавіністычна-імперскіх "дзеячаў".**

**Аляксей АНІШЧЫК.**

**НА ЗДЫМКУ: Прэзідэнт Аляксандр ЛУКАШЭНКА на Віленшчыне.**

# У СЭРЦЫ СМУТАК, ЖАЛЬ І НЕПАКОЙ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Падчас сталінскіх рэпрэсій бацьку выключаюць з партыі, звальняюць з войска, і сям'я Шнэкаў вяртаецца ў Слуцк. Дзеці пачынаюць вучыцца ў беларускай школе, і не раз Уладзіміру прыйшлося пабіцца з хлопцамі, якія пасмейваліся з яго незвычайнага вымаўлення. Аднак падлетку, бацькі, дзяды і прадзеды якога былі беларусамі, нескладана было перайсці на родную мову, варта толькі было захацець, тым больш, што ён хутка апынуўся ў цэнтры гульняў, забаў сваіх аднагодкаў, шмат чытаў, пачынаючы асвойваць беларускія кнігі.

Гэта мірнае жыццё было абарвана вайной. Уражлівая памяць падлетка захавала жудасныя карціны разбурэння, бамбёжак, папялішчаў, адступленне савецкіх салдат і пераможнае напачатку шэсце нямецкага войска, якое каціла па Слуцкай шашы суцэльным патокам на веласіпедах, матацыклах, аўтамашынах... І самае страшнае -- натоўп каля турмы, падворак якой быў завалены расстралянымі вязнямі, і пачутыя словы, што гэта зрабілі нашы, калі пакідалі горад... А там жа былі і бязвінныя ахвяры сталінскага рэжыму...

Так сям'я Шнэкаў засталася на часова акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі. Уладзімір скончыў сёмы клас і пайшоў вучыцца ў рамеснае вучылішча, дзе вывучаў тэхналогію дрэва і сталярнае майстэрства. У 1944 годзе Уладзімір Шнэк, хоць быў яшчэ непаўналетнім, паступіў у афіцэрскую школу Беларускай краёвай абароны (БКА), у якой не паспеў правучыцца і двух месяцаў, як вымушаны быў эмігрыраваць на Захад. Беларуская брыгада, куды ён быў залічаны як курсант гэтай школы, прарвала нямецкі фронт і здалася амерыканцам. Аднак нягледзячы на пагадненне аб нявыдачы савецкім уладам, эшалон з беларускімі вайскоўцамі быў накіраваны ў савецкую зону акупацыі. Месяц салдат БКА пратрымалі ў падвалах СМЕРШа, высвятляючы віну кожнага, пасля зноў усіх пагрузілі ў таварныя вагоны з прамым накірункам у Сібір. Аднак Уладзіміру Шнэку з некалькімі сябрамі ўдалося ўцячы, калі цягнік стаяў на станцыі ў Берліне, і трапіць у англійскую зону акупацыі і ўжо адтуль дазнацца, што ў нямецкім гарадку Ватэнштат знаходзіцца беларускі лагер перамешчаных асобаў. Тут, нарэшце, сабралася ўся сям'я, і праз некаторы час Уладзімір пайшоў вучыцца ў беларускую гімназію (заснаваную беларусамі-эмігрантамі), каб атрымаць сярэднюю адукацыю.

У гімназіі яму пашчасціла пазнаёміцца з вядомым беларускім пісьменнікам Хведарам Ільяшэвічам, які выкладаў беларускую мову і літаратуру. Пад яго кіраўніцтвам і апекай Уладзімір Шнэк пачынае пісаць апавяданні, і першае з іх ("У агні") было надрукавана ў лагерным часопісе пад псеўданімам "Случанскі", які параіў яму ўзяць Хведар Ільяшэвіч. Пасябраваў пазней малады аўтар з паэтам, самадзейным спеваком і кампазітарам Пятром Нядзведзкім-Звонным, які напісаў словы і музыку марша "Ідуць жаўнеры беларусы".

У 1948 годзе Уладзімір Шнэк разам з братам Алегам едзе на заробкі ў Францыю. Гэта адбылося ўжо пасля заўчаснай смерці Хведара Ільяшэвіча, які загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Заключыўшы кантракт на год працы ў вугальных капальнях, браты выпісалі туды і маці з сястрой Лінай. Адпрацавалі роўна год і па заканчэнні кантракта пераехалі ў прыгожы французскі горад Бэльфор, уладкаваліся на тэкстыльную фабрыку. Там бы яны, напэўна, і засталіся, каб французскія ўлады не пачалі прымушаць іх зноў вяртацца на капальні. А было б, відаць, вялікім шчасцем для іх застацца ў Еўропе, не так далёка ад Радзімы (дарэчы, мне давялося пабываць у гэтым непаўторна цудоўным, казачным Бэльфоры, палюбавацца яго панарамай з вышыні старажытнага замка, які пануе над горадам. -- **Л.С.**). Аднак лёс распарадзіўся іначай: сям'я Шнэкаў зноў вярнулася ў Нямеччыну, цяпер у горад Бакнанг, дзе таксама быў беларускі лагер перамешчаных асобаў. Тут Уладзімір Случанскі асабіста пазнаёміўся з паэтам Масеем Сяднёвым, хоць да гэтага добра ведаў яго па творах, актыўна ўключыўся ў эміграцкае грамадскае жыццё: арганізаваў дружыну марскіх скаўтаў, пачаў выдаваць ратататарам часопіс "Нашы ветразі", у якім неўзабаве апублікаваў напісаны Пятром Звонным "Марш марскіх скаўтаў".

Няўстойлівасць жыцця ў пасляваеннай Германіі, цяжкасці з працаўладкаваннем патрабавалі шукаць больш спакойную краіну для нармальнага існавання. У 1950 годзе многія беларускія сем'і выехалі ў Аўстралію. Па дарозе ў гэту далёкую зямлю Уладзімір пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай Людмілай, якая паходзіла з Польшчы, і ўсю дарогу яны правялі разам. Размаўлялі на нямецкай мове, бо яна не ведала беларускай, а ён -- польскай. У Аўстраліі пры атрыманні працы іх разлучылі. Мілю і яе сяброўку Ядвігу паслалі працаваць афіцыянткамі ў гатэль мястэчка Урана, а Уладзіміру далі працу на вялікай авечай ферме. Жылі яны там у палатках, па кантракту ўсе эмігранты вымушаны былі год адпрацаваць на



розных непрэстыжных работах. У верасні 1950 года, Уладзімір, ажаніўшыся з Міляй і адпрацаваўшы патрэбны тэрмін у фермера, разам з маладой жонкай перабраўся ў Мельбурн, дзе жылі маці, брат і сястра. Трэба было думаць аб уладкаванні на сталае жыццё, і таму найперш пачалі збіраць грошы на ўласнае жытло. Даволі хутка назбіралі на задатак і набылі прыгожы, прасторны дом. Да гэтага часу Міля дасканала авалодала беларускай мовай і ў новым доме гучала толькі мова далёкай Бацькаўшчыны.

У Мельбурне беларускае жыццё хутка наладжвалася. Існаваў аддзел беларускага аб'яднання. Скаўтынг быў у стадыі арганізацыі. Аддзел беларускага аб'яднання ў Вікторыі налічваў у той час каля 200 чалавек і разгарнуў шырокую дзейнасць. Уладзімір Случанскі спаткаўся тут з многімі сваімі знаёмымі па Ватэнштату і Бакнангу. Беларускае аб'яднанне наладжвала сходы, дзе абмяркоўваліся бягучыя справы, урачыста адзначалі беларускія нацыянальныя святы, дапамагалі адзін аднаму будаваць дамы, збіралі сродкі на падтрымку беларускай прэсы на чужыне і выданне кніжак. Моладзь была арганізавана ў беларускім скаўтынгу імя Усяслава Чарадзея. Уладзімір Случанскі ўзначальваў гэту маладзёжную суполку, на рахунку якой назапашвалася ўсё больш добрых спраў. Вывучалі беларускую гісторыю, нацыянальныя традыцыі, святкавалі розныя ўгодкі, арганізавалі мастацкую самадзейнасць, летнія лагеры адпачынку. Да гэтага часу адбыліся значныя падзеі ў асабістым жыцці Уладзіміра Случанскага: у 1952 годзе нарадзілася першая яго дачка Людміла.

У 1955 годзе быў зацверджаны статут арганізацыі беларускіх вайскоўцаў на чужыне -- Беларускага вызвольнага фронту. Уладзімір Случанскі прызначаецца кіраўніком аддзела моладзі БВФ, што супадала з яго становішчам скаўтмайстра. Беларускія юнакі стварылі футбольную каманду "Зубр" і паспяхова спаборнічалі ў мясцовай футбольнай лізе. Пры непасрэдным яго ўдзеле ў гэтыя гады ў Мельбурне была заснавана беларуская нядзельная школа. На агульным сходзе бацькоў Уладзімір Случанскі быў абраны ў склад управы школьнага камітэта, а ў 1956 годзе яго выбралі старшынёй Беларускага аб'яднання ў Вікторыі, адначасова ён быў прызначаны кіраўніком аддзела прэсы і інфармацыі Краёвага штаба Беларускага вызвольнага фронту ў Аўстраліі. Пачаў выходзіць часопіс "На варце", а пазней і гумарыстычны дадатак да яго "Ёрш", дзе ў 1958 годзе была надрукавана гістарычная паэма Лявона Случаніна "Рагнеда" (аўтар яе ў гэты час адбываў 15-гадовую катаргу на радзіме). Магчыма, у гонар славутай гераіні паэмы Л.Случаніна Уладзімір Случанскі і назваў сваю другую дачку, якая нарадзілася ў 1958 годзе, Рагнедай. У гэтым жа годзе ён паступае на завочны факультэт камерцыйнага мастацтва ў Мастацкі інстытут Мельбурна, які скончыў у 1961 годзе, і адразу быў прыняты ў Згуртаванне мастакоў Вікторыі і мастацкую групу Гленрой. За гэтыя гады, калі паспеў узмужнець яго талент мастака-жывапісца, ён намаляваў шмат карцін алеем і акварэллю, пераважна краявідаў. (Усе яны хутка былі раскуплены).

**Лідзія САВІК.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір СЛУЧАНСКІ.**

**(Заканчэнне будзе).**

Алесь СТАВЕР

## БАЛАДА ПРА БЕЛАРУСКІ СЦЯГ

**Грунвальдская бітва. Бушуюць пажары.**
**Над полем, над гаем удушлівы дым.**
**Чужынцы нахлынулі цёмнаю хмарай, --**
**Радзеюць славянскага войска рады.**

**Патрэбна падмога! Патрэбна падмога!**
**Інačай загіне краіна ў агні.**
**Юнак-беларус палявою дарогай**
**З завостранай пікай імчыць на кані.**

**У бітве ён страціў малодшага брата, --**
**Ад гора сляза на павейках імжыць.**
**Дадому забег ён. А брат сярод хаты**
**На белай пасцілцы знямелы ляжыць.**

**Пакутна ўзнялася ссівелая маці, --**
**У матчыным голасе боль і дакор:**
**-- Уранку прывезлі... Пакінулі ў хаце...**
**Ад ранаў крывавых саколік памёр...**

**Над братам загінуўшым даўшы прысягу,**
**Пасцілку на піку юнак нанізаў, --**
**Пад бел-чырвон-белым**
**разгорнутым сцягам**
**Падмогу па вёсках склікаць паімчаў.**

**Убачыўшы сцяг той, збудзіліся вёскі, --**
**На покліч ішлі ваяры грамадой, --**
**Сабралася хутка вялікае войска, --**
**І рушыла войска на праведны бой.**

**Нястрымнай лавінай імчаліся коні.**
**Маланкамі кроілі неба мячы.**
**Магутны парыў той рашучай пагоні**
**Стрымаць не ўдалося нікому нічым.**

**З тых дзён не адно прамінула стагоддзе, --**
**Нямала вады ў акіяны сплыло...**
**Пра сцяг беларускі казалі ў народзе,**
**А сцягу шмат часу нябачна было, --**

**Як быццам у літве згубіўся ён недзе...**
**Мы доўга з надзеяй глядзелі ў прасцяг, --**
**У думных стагоддзях жадаючы ўгледзець**
**Сваёй незалежнасці, мужнасці сцяг.**

**Нарэшце ўзышоў ён світальнай зарою, --**
**Прабіўся праз цемру, развеяў хаўрус.**
**Свяціць яму ярка над роднай зямлёю, --**
**Пакуль будзе жыць хоць адзін беларус!**

# "ДА ЛЮДЗЕЙ... ІСЦІ З АДКРЫТАЮ ДУШОЙ..."

Пад такой назвай прайшла вечарына ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння лаўрэата Купалаўскай прэміі, шчырага рупліўца на ніве беларускай літаратуры -- паэта Міколы Аўрамчыка. Мікола Аўрамчык з кагорты тых беларускіх літаратараў, якія ўсім сэрцам адданыя памяці Янкі Купалы, а шчырае сяброўства з Уладзіславай Францаўнай, жонкай паэта, пакінула ў яго душы ўдзячнасць і павагу да гэтага цудоўнага чалавека.

Нездарма найбольш часта ў паэзіі Міколы Аўрамчыка з'яўляецца вобраз Янкі Купалы. Толькі ў зборніку "Агледзіны" яму прысвечаны чатыры вершы. У Янкі Купалы Мікола Якаўлевіч вучыўся перш за ўсё шчырасці, душэўнасці, адданасці роднай Бацькаўшчыне.

**Дарагі Іван Дамінікавіч,**
**Змалку**
**я лічу вас родным,**
**сваім.**
**Вы пакінулі скарб вялікі мне,**
**Дзецям спадчыну**
**і ўнукам маім.**

Адкуль жа пачынаецца паэт Мікола Аўрамчык?

**Мая Бабруйшчына зялёная,**
**Здаешся іншым ты малой**
**З тваёй Бярэзінай хвалёнаю**
**І з непрыкметнаю Алой.**
**А мне**
**заўсёды паўнаводнымі**
**Здаваліся іх берагі,**
**Былі твае мясціны роднымі,**
**Куток з маленства дарагі.**

У вёсцы Плёсы, што на Бабруйшчыне, нарадзіўся Мікола Якаўлевіч, тут прайшлі яго дзіцячыя гады. Пасля заканчэння Цялушскай сярэдняй школы, у 1938 годзе, ён студэнт Мінскага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага, але скончыць інстытут яму не давялося: пачалася вайна.

"Уначы 26 чэрвеня, -- зазначае паэт, -- з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск, а назаўтра ў высокай збажыне ўзбоч Бабруйскай шашы хаваліся ад фашысцкіх сцярвятнікаў, якія бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў грамадзянскае насельніцтва".

Летам 1942 года Аўрамчык ваяваў на Волхаўскім фронце. Там трапіў у акружэнне і апынуўся ў фашысцкім палоне. Потым была катаржная, нявольніцкая праца ў падземных норах рурскіх шахтаў, якую рэдка хто вытрымліваў працяглы час. Мікола Аўрамчык успамінае: "Калі б не малады, юнацкі арганізм ды не падтрымка і дапамога аднаго нямецкага шахцёра, дык я, напэўна, не выжыў бы ў гэтым пекле".

**Каб гэтакага лёсу вы**
**не мелі,**
**Наканаваны мне ў жыцці які,**
**Бо вязні --**
**лічаць вязнем падзямелля,**
**Франтавіком --**
**завуць франтавікі.**

**Пад Чудавам я**
**цудам не забіты,**

# КЛІКАЛА РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

## З ПЕРАПІСКІ С. ГРАХОЎСКАГА З М. ЗАБЭЙДАМ-СУМІЦКІМ

*6.5.1972.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за Першамайскае віншаванне. Вельмі непакоіўся, ці Вы здаровы. Часта звяртаўся да Вашых, блізкіх мне вершаў: "Патрэбен чалавеку чалавек", "Душа" і інш. Перачытваю "Новую зямлю" і "Сымона-музыку" Якуба Коласа. Хоць хворы невылячальна, усё яшчэ спяваю (калі даюць магчымасць). У Рыгровым садзе, дзе Вы калісьці мяне фатаграфавалі (з матылём), цяпер рай. І шпачкі мае прыляцелі. Шкада, што не можам з Вамі прайсціся зноў!

Жадаю ўсяго найлепшага Вам і Вашым блізкім. Чакаю пісьма. Моцна абдымаю.

**Ваш М. ЗАБЭЙДА.**

*Прага.24.8.1972.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Вялікае Вам дзякуй за цікавае пісьмо. Радуюся, што Вас добра носяць ногі, што многа і плённа працуеце. Хай жа і далей так будзе, на радасць Вашым блізкім, на радасць шматлікім Вашым паклоннікам і ўсім добрым людзям. Дзякуй і за падарункі: "Янку Купалу" (кніжка і фота помніка) і "Зорку Венеру".

Не адказваў Вам адразу, бо не хацеў забіраць Вашага часу на адказ мне. І так дзіўлюся, як Вы ўсё паспяваеце зрабіць. "И я таким когда-то был", -- успамінаюцца словы з "Анегіна"...

А вось цяпер, на жаль, толькі памалу магу рабіць і нават хадзіць. І ўсё ж раблю, бо згаджаюся з Вамі, што "лепш упасці на хаду". Але пакуль што трымаюся. У Лугачовіцах меў канцэрт, якіх мала зрабіў у жыцці: спяваў амаль дзве гадзіны без перапынку ў 8-мі мовах і з уводным словам да кожнае песні. Слухачоў было больш, чым месцаў у зале. Стаялі ля сцен. Думаў: адыдуць. Не, вытрымалі аж да канца і нават яшчэ жадалі "бісаў". А праграма была вельмі каштоўная: ад XYI стагоддзя да нашых дзён. Быў і Шастаковіч, і Чайкоўскі, і Туранкоў, і Чуркін на Купалавы вершы "Ты прыдзі", якім адзначыў 90-годдзе з дня нараджэння нашага вялікага паэта.

Калі па канцэрце прызнаўся, што жыву ўжэ семдзесят трэці год і што пяцьдзесят гадоў спяваю, ніхто не хацеў гэтаму верыць, але факт астаецца фактам. Калісьці чытаў пра слаўнага італьянскага спевака Бацісціні, што ў 72 гады выходзіў на сцэну з кіёчкам, але спяваў, як малады. Мне не хацелася гэтаму верыць. Цяпер бачу, што гэта магчыма.

Адным словам, яшчэ адна перамога. Праўда, думаў, мо прыйдзецца "на хаду" ўпасці, але, як бачыце, вытрымаў. Да гэтага бою (выступлення) рыхтаваўся вельмі доўга і цярпліва. Звычайна па лячэнні, працэдуры якога моцна аслабляюць (часова) арганізм, дактары радзяць 2--3 нядзелі адлачыць, а мне прыйшлося адразу выступіць. Тым большая гэта была перамога. Адным словам, меў шчасце! ("Да пары, да часу збан воду носіць"...)

Цяпер знаёмлюся з новым цыклам Вацлава Добіяша "Прага едіна". Ці калі заспяваю, не ведаю. (Вельмі трудна). Па лецы і вучні прыходзяць, і рады, ім памагаю, перадаючы свой жыццёвы вопыт.

Заходжу ў Рыгровы сад, дзе Вы фатаграфавалі матыля (на маіх грудзях), і любуюся новай зменай -- дзецьмі. Канчаю. "Злуе" сэрца. Шлю найлепшыя прывітанні Вам і Вашым блізкім. Моцна абдымаю.

Шчыра Ваш

**Міхась ЗАБЭЙДА.**

**P.S.** Лягу і буду чытаць "Зорку Венеру" (з асалодаю).

*Прага.21.10.1974.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Ужо даўно хацеў падзякаваць Вам за другую палавіну "Ранняга снегу" (з мілай для мяне прыпіскай), але грып, які ў гэтую асаблівую зіму моцна размогся, палажыў і мяне. А пры маім сэрцы і пры маёй адзіноце гэта робіць жыццё яшчэ больш складаным. Цяпер ужэ трохі лепш, хоць яшчэ кашляю і моцна аслабеў. І ангіна яшчэ больш адчуваецца. Але вернемся да Вашае аповесці.

Другая палавіна, хоць і скарочаная, мне таксама вельмі спадабалася. І чытаў яе два разы, адзін раз з Вашага "Полымя", а другі раз з прысланага Саюзам пісьменнікаў. Радаваўся за Аляксея. Добра, што канец аптымістычны. У жыцці, на жаль, не заўсёды так бывае. Таму я люблю казкі: там праўда заўсёды перамагае.

А ў прыродзе сапраўды "нешта перакруціўся". Яшчэ люты не скончыўся, а на кустах ужо зелянеюць пупышкі і нават лісцікі, хоць яшчэ, напэўна, будуць начныя (можа і дняўныя) маразы. Крукі яшчэ не адляцелі ў палі, а шпакі не прыляцелі ў Рыгровы сад. Зіма вельмі нездаровая.

Прыемна чытаць, што рэспубліка ўрачыста адзначыла юбілей слаўнага Куляшова. І яму ўдзячны за хвіліны, пражытыя з яго творамі. Жадаю яму, як і Рыгору Раманавічу, доўгага і пленнага жыцця на карысць Бацькаўшчыне.

Пытаецеся, як жыву. Памаленьку, нават вельмі памаленьку. Усё яшчэ стараюся быць карысным добрым людзям. Нядаўна быў у журы "LSU" (людовыя школы мастацтва) у спявацкай галіне. І такая радасць находзіць на чалавека, калі спаткаеш сапраўдны талент.

16-га сакавіка ў Празе мае быць Шаўчэнкаўскі вечар. Прасілі выступіць і мяне. Рыхтую песні на тэксты вялікага паэта. Калі буду жыць, з прыемнасцю заспяваю. Надвор'е для сардэчнікаў у нас вельмі здаровае.

У Празе ад таго часу, калі Вы яе бачылі, шмат што змянілася. Будуецца метро, і з гэтым звязаны розныя працы. Вельмі шмат аўтамабіляў, сабак, што псуе і без таго цяжкае паветра вялікага горада.

Атрымаў "Полымя" за студзень, ёсць многа цікавага. Чытаю раман Шамякіна "Атланты і карыятыды".

На гэтым пакуль што развітваюся з Вамі, дарагі Сяргей Іванавіч. Трэба легчы. Жадаю Вам вялікіх поспехаў, новых песень, здароўя, шчасця. Моцна абдымаю! Прывітанне супольным знаёмым.

**М.З.**

**Працяг. Пачатак у №№ 7—8.**

---

## Заір АЗГУР



**У некралогу, падпісаным дзяржаўнымі дзеячамі, пісьменнікамі, работнікамі культуры і мастацтва, паведамляецца, што беларуская культура панесла цяжкую страту: на 88 годзе жыцця памёр выдатны беларускі скульптар, народны мастак Беларусі і СССР, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР, Герой Сацыялістычнай Працы Заір Ісакавіч Азгур.**

**Галоўнае месца ў творчасці мастака займае праца над партрэтамі нашых сучаснікаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў, выдатных рэвалюцыянераў і палкаводцаў мінулага, яскравых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі.**

**Цікавасць З. Азгура да чалавека, жаданне дасканала ўвасобіць яго пластычнымі сродкамі прывялі да таго, што менавіта партрэт заняў у творчасці скульптара такое важнае месца. У залаты фонд выяўленчага мастацтва назаўсёды ўвайшла бліскучая галерэя партрэтных вобразаў воінаў і партызан, створаных мастаком у гады Вялікай Айчыннай вайны. Дакладнасць пластычнага малюнка, рытмічная зладжанасць кампазіцыі, глыбокая псіхалагічнасць, гранічная завершанасць формаў спалучаюцца ў гэтых творах з рамантычнай узнёсласцю, урачыстасцю, якія падкрэсліваюць героіку народнага подзвігу. Генерал Леў Даватар, партызанскі важак Мінай Шмыроў, легендарны дзед Талаш, снайпер Фядос Смалячкоў, лётчыкі Віктар Талаліхін і Мікалай Гастэла -- глыбокая праўда гучыць у гэтых вобразах. Яны як дакументальнае і ў той жа час мастацкае ўвасабленне гераічнага часу.**

**Але не толькі партрэтны жанр вабіў З.Азгура. Шырока вядомыя ягоныя здзяйсненні ў манументальнай скульптуры -- ансамбль помніка Якубу Коласу ў Мінску, шматлікія манументы і помнікі-бюсты дзяржаўным дзеячам, героям-патрыётам і творцам, сярод якіх Ф.Скарына, Ф.Багушэвіч, Я. Купала. Многія творы З. Азгура паспяхова прадстаўляюць наша мастацтва далёка за межамі Беларусі. Велічны помнік Рабіндранату Тагору ўстаноўлены ў Калькуце.**

**З. Азгур сам стварыў каментарый да свайго жыцця, да сваёй творчасці. Ён напісаў тры тамы ўспамінаў і творчых нататкаў. У гэтых кнігах -- тлумачэнні і абарона сваёй, менавіта рэалістычнай пазіцыі. Родная Беларусь, яе гісторыя, яе народ -- вось тыя вытокі, якія больш за 70 гадоў творчага жыцця сілкавалі і натхнялі мастацтва Майстра. Сутнасць ягонай творчасці -- спасціжэнне чалавека ў самых розных праявах духоўнага, інтэлектуальна-эмацыянальнага жыцця.**

**Светлая памяць пра выдатнага мастака-рэаліста, патрыёта, грамадзяніна, добрага і спагадлівага, энцыклапедычна адукаванага чалавека Заіра Ісакавіча Азгура заўсёды застанецца ў сэрцах людзей.**

---

**Прапаў без вестак я ў**
**Лясным Бары**
**І ў Руры, богам і**
**людзьмі забыты,**
**Ледзь выбраўся з**
**падземнае нары.**

Вершы гэтага цыкла перадаюць усю суровасць паднявольнай працы ў штольнях дымнага Рура, сум героя па Беларусі і цвёрдую веру ў вяртанне ў родны край.

Пасля вызвалення Мікола Аўрамчык, як былы палонны, працаваў у Данбасе, а з 1946 года вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і адначасова з вучобай працаваў у рэдакцыях "Чырвонай змены", "Літаратуры і мастацтва", "Полымя".

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта цалкам прысвяціў сябе пісьменніцкай дзейнасці, выхаванню маладых паэтаў, якія адчувалі бацькоўскую ўвагу Міколы Якаўлевіча, дабрыню яго душы. Праз яго сэрца прайшло некалькі пакаленняў беларускіх паэтаў: Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Юрась Свірка, Анатоль Грачанікаў, Кастусь Цвірка, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Яўгенія Янішчыц, Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў і іншыя.

Сам М.Аўрамчык заўсёды крытычна ставіцца да сваіх творчых здабыткаў. З мноства ўбачанага і перажытага ўзята самае істотнае, асветленае яскравай думкай паэта. Неяк Мікола Якаўлевіч сказаў: "Кажуць, што біяграфія паэта ў яго вершах. Мабыць, кароткая ў мяне біяграфія, бо вершаў напісаў я вельмі мала".

На самай справе біяграфія ў Міколы Аўрамчыка не кароткая і тым больш не лёгкая.

Па вершах паэта можна прасачыць увесь яго жыццёвы шлях. Аўтар заўсёды вяртаецца да рэальных эпізодаў свайго жыцця, да таго, з чым ён непасрэдна сутыкаўся на сваёй пуцявіне.

**Не трывожся гэтак, маці,**
**аба мне:**
**З таго свету**
**мне няма павесткі...**
**Ты і ў снах**
**наведвала мяне,**
**На вайне**
**прапаўшага без весткі.**
**Мо таму**
**і ў страшным пекле выжыў я,**
**Як з мяне ні**
**здзекваліся чэрці,**
**Бо я ведаў,**
**родная мая:**
**Не перажывеш**
**маёй ты смерці.**

У Міколы Аўрамчыка многа вершаў пра шахцёраў. Яны сабраны ў кнігу "Сустрэча былых канагонаў", якая была адзначана Літаратурнай прэміяй імя Я.Купалы.

У Данбасе быў напісаны адзін з лепшых вершаў Міколы Аўрамчыка "Беларуская сасна". Народны паэт Беларусі Пімен Панчанка так ацаніў гэты верш: "У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М.Святлова -- гэта "Грэнада", у Я.Смелякова -- "Калі я захварэю", у С.Арлова -- "Яго зарылі ў шар зямны". У Міколы Аўрамчыка -- "Беларуская сасна". Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае -- верыш шчыраму даверліваму голасу паэта.

**З кожнай штольні**
**пахне беларускай**
**Баравой,**
**смалістаю сасной...**
**Пад зямлёй праход**
**нязручны, вузкі,**
**Выглядае просекай лясной.**
**.....................................**



**Ты з настойлівасцю**
**вугаль колеш,**
**Іскры пырскаюць з-пад**
**малатка...**
**Родная сасна пад цяжкай**
**столлю**
**Не аддасць у крыўду земляка.**

Душэўная шчырасць спрыяе таму, што Мікола Аўрамчык піша ўспаміны, эсэ, словы пра сваіх франтавых сяброў. Вядомы ён і як перакладчык. Перакладаў на беларускую мову творы Байрана, А.Міцкевіча, І.Франка, Л.Украінкі і шмат іншых паэтаў.

Нядаўна Мікола Якаўлевіч парадаваў сваіх чытачоў і прозай. З-пад яго пяра выйшла першая кніга прозы -- раман "У падзямеллі" (1986) і аповесць "Палон" (1991). Творы ўваскрашаюць драматычныя старонкі Вялікай Айчыннай вайны, няскоранасць нашых ваеннапалонных, якіх фашысты загналі пад зямлю ў шахты Рура.

Не будзем спыняцца на тым, што ў Міколы Якаўлевіча шаноўны юбілей. "Праца ў часопісе "Маладосць", -- неяк заўважыў паэт, -- прайшла для мяне ў цеснай сувязі з паэтычнай моладдзю. Разам з ёю вучыўся, перажываў яе расчараванні, радаваўся поспехам. Таму часамі здаецца, што я на дваццаць гадоў маладзей свайго ўзросту".

Вельмі цёпла пра Міколу Якаўлевіча гаварылі на вечарыне народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Уладзімір Паўлаў, намеснік рэдактара часопіса "Маладосць" Казімір Камейша і галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" Вячаслаў Адамчык.

А мы яму зычым усё той жа цеплыні, маладосці, душэўнасці і шчырасці. Хай яму хораша думаецца, пішацца, каб ніколі ў яго душы і сэрцы не патух агеньчык дабра і шчасця.

**Марыя ЧАБАТАРЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікола АЎРАМЧЫК (справа) і Варлен БЕЧЫК.**

# ТОЙ ЛЮД ЖЫВЕ, ШТО СВАЕ ПЕСНІ МАЕ

## СВІРАНСКІЯ КАЛЫХАНКІ

**Праз месяц 155-я гадавіна з дня нараджэння Францішка Багушэвіча. З гэтай нагоды пачынаем друкаваць нататкі Уладзіміра Содаля з песняровай радзімы.**

Францішак Багушэвіч, як вядома, нарадзіўся ў Свіранах. Гэта на Віленшчыне, за дваццаць пяць кіламетраў ад Вільні. Віленшчына спрадвеку аб'ядноўвала Ашмяншчыну і Смаргоншчыну -- мясціны, таксама звязаныя з імем паэта. Але гісторыя ў дваццатым стагоддзі пакіравалася так, што паэтава радзіма -- Свіраны -- неяк аддалілася ад Беларусі: да 1939 года яны былі пад Польшчаю, а з 1940 года перайшлі да Летувы. Наша повязь з паэтавай радзімай з кожным дзесяцігоддзем усё больш і больш паслаблялася. А ў апошнія гады Свіраны зусім апынуліся за мяжой. Каб патрапіць цяпер на песнярову радзіму, патрэбна віза, замежны пашпарт і шмат-шмат клопатаў. Усё гэта неяк абвастрыла цікавасць да Багушэвічавых Свіранаў, захацелася пра іх даведацца як мага больш. І найперш, якія калыханкі співаюць сёння, у канцы дваццатага стагоддзя, сваім немаўлятам свіранскія матулі, бабулі. Прызнаюся шчыра: баяўся, што пачую якія-небудзь спольшчаныя ці зрусіфікаваныя варыянты. Свіраны ж зараз, яшчэ раз нагадаю, за межамі Беларусі. А гэтак хацелася пачуць тыя, якія співалі тут спрадвеку, якія співалі Францішку. І што ж? Я іх пачуў -- чысцюсенька родныя:

**Люлі, люлі, люлі.**
**Прыляцелі куры,**
**Селі на варотах**
**У чырвоных ботах.**
**Сталі сакатаці --**
**Няма чаго даці:**
**Ні аўса паўкаша,**
**Ні ячменку жменку.**
**Дам жыта карыта --**
**Будзе кура сыта.**
**Люлі, люлі, дзеткі**
**Пайшлі ў лес па кветкі.**
**Кветкаў не набралі --**
**Кашулькі падралі.**

* * *

**А-а-а... Каткі два:**
**Шэры, буры, абодва**
**Паляцелі да лясу,**
**Нарабілі галасу...**

* * *

**Лады, лады, ладкі,**
**Паедзем да бабкі.**
**Да' нам бабка кашкі,**
**А дзядок акраскі,**
**А цетуня -- солі,**
**Бо нам брушка болі.**

Гэтыя калыханкі мне наспявала Броня Зянькевіч з Крукоўскіх. Да яе яны прыйшлі ад матулі і бабулі. А яна іх співала і сыну, цяпер настаўніку рукойненскай школы.

Цікавую калыханку наспявала Аміля Піпілевіч:

**Люлі, люлі, люлі,**
**Каток без кашулі,**
**А котачка ў лесе:**
**Кашулю прынесе.**
**Ішоў каток па плоце**
**У шэранькам капоце.**
**І капотку падраў,**
**І котачкі не дагнаў.**
**Котачка ўцякла**
**І цацкі панясла.**

Пра сябе Аміля Піпілевіч сказала: "Я з дзесятага року -- я тут зрадзілася, я тут ткала і прала... Я тут жала і арала, усіх дзяцей пагадавала... Гадавала і калыхала... Тут мае дзяды і бацькі гадаваныя... І імі гэтыя калыханкі співаныя..."

Прыгожай калыханкай абдарыла і свіранка Юля Філіповіч, 1924 года нараджэння:

**А-а-а... Люлі, люлі!**
**Усе дзеткі паснулі.**
**Толькі ты, мой сынок,**
**Не спіш, гуляеш,**
**Маме спаткі замінаеш,**
**Мяне, маладзеньку,**
**Спаць не пускаеш.**
**А-а-а... Люлі, спаць,**
**А я буду калыхаць...**

Так і ідуць гэтыя няхітрыя, просценькія люлянкі з веку ў век, з пакалення ў пакаленне. Мінаюць стагоддзі, рушацца дзяржавы, палітычныя і нацыянальныя ўплывы, а калыханкі нашы тут непадуладныя ніякай уладзе, жывуць сабе і жывуць, дзетак у вялікі свет выводзяць, нагадваюць ім пра тутэйшае паходжанне. Перакананы, многія з запісаных у Свіранах калыханак наспяваны Францішку. Між іншым, свіранцы, гэтак жа, як і Францішак, называюць калыханкі калысанкамі. Патлумачылі: "Раз калыска, то і калысанка". Што ж, прымаем і такое тлумачэнне. Ва ўсякім разе цяпер нам будзе зразумела: назва твора "Калысанка" ў "Смыку Беларускім" ніякая не абмылка друку, не аўтарская апіска, не моўны блуд. Так гаварылі і гавораць на яго радзіме. Такое ён слова чуў з маленства і палічыў патрэбным пусціць у друкаваны свет. Прымем жа гэта да ведама ўсе, каму слова калысанка дагэтуль чымсь муляла, было нязвыклае.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



У наваколлі Свіран.

## НА ПЛОШЧЫ 1000-ГОДДЗЯ – ХРАМ XII СТАГОДДЗЯ

Пакуль толькі ў эскізах існуе плошча 1000-годдзя Віцебска, але адзін з яе аб'ектаў ужо вымалёўваецца ў цэнтры старажытнага горада. Гэта царква Благавешчання, "найвялікшы помнік старадаўняга дойлідства, унікальны твор культуры", як характарызуе храм XII стагоддзя аўтар праекта яго аднаўлення і навуковы кіраўнік работ архітэктар Генадзь Лаўрэцкі.

Заказчыкам будаўніцтва выступіў аддзел па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Віцебскім аблвыканкоме, сродкі выдзелены з рэспубліканскага бюджэту. Пасля заканчэння будаўніцтва ў 1996 годзе храм будзе перададзены Благавешчанскаму прыходу.

# СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ ЯНКІ КАШКЕЛЯ




Якуб Колас.

Графіка 20-х гадоў -- цікавая мастацкая з'ява, якая дапамагла многім мастакам знайсці свой асабісты шлях. Колькі цікавых твораў у тэхніцы лінарыта, тушы, ксілаграфіі можна ўбачыць на старонках такіх выданняў, як "Звязда", "Савецкая Беларусь", "Піянер Беларусі", "Вольны сцяг", "Рунь", "Малады араты" і інш., дзе выступалі А. Тычына, У. Майзеліс, П. Гуткоўскі, Я. Драздовіч, Я. Мінін, С. Блюх, Г. Змудзінскі, М. Пашкевіч, Г. Дакальская, А. Ахола-Валю і іншыя мастакі-агітатары, выхавальнікі, прапагандысты новых ідэй. Яны былі розныя па сваёй адукацыі, мастацкай манеры, але менавіта мастакі-графікі пакінулі для гісторыі вобразы тых часоў, змагаючыся з чыноўніцтвам, цяганінай, бездарожжам, безгаспадарчасцю. Гэта быў цікавы час для беларускага друку, аб якім у 1927 годзе на старонках "Савецкай Беларусі" Зміцер Жылуновіч пісаў, што, пачынаючы з часоў лютаўскай рэвалюцыі, існавала два самастойныя напрамкі: нацыянальна-незалежніцкі і савецка-марксісцкі.

У тых варунках не згубілася імя Янкі Кашкеля, аднаго з таленавітых мастакоў Беларусі 20-х гадоў. Ён шмат маляваў для газеты "Звязда". У 1927--1929 гадах рэдка якая газета выходзіла без яго палітычных карыкатур, шаржаў, плакатаў, замалёвак. Тэмай іх былі і падзеі ў Польшчы, Вільнюсе, Францыі, Расіі. Можна ўбачыць карыкатуры на многіх вядомых у тыя часы палітычных і грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў. Калекцыя гэтых партрэтаў -- самая вялікая ў параўнанні з калекцыямі іншых мастакоў-графікаў. Дасканалы графічны контур, падабенства з партрэтам, веданне якіх-небудзь асабістых рыс партрэтуемага -- выклікалі цікавасць, дапамагалі лепш разумець сваіх лідэраў. Але вядома, што гэта быў толькі невялікі адрэзак часу. Рэпрэсіі пачаліся з 1928 года. А нам засталіся гэтыя цудоўныя малюнкі мастака Янкі Кашкеля.

**Людміла НАЛІВАЙКА.**

**P.S. Шэраг работ Янкі КАШКЕЛЯ "Голас Радзімы" мае намер апублікаваць у некалькіх бліжэйшых нумарах газеты.**

# СПОРТ

## "ЦІВАЛІ" НЕ ПЕРАСТАЕ ЗДЗІЎЛЯЦЬ

Працягваецца чэмпіянат МХЛ. У апошніх шасці турах хакеісты "Цівалі" (Мінск) набралі дзевяць ачкоў з дванаццаці. Каманда нашых землякоў гуляе ў гэтым чэмпіянаце няроўна і... непрадказальна: то прайграе больш слабаму саперніку, то выйграе ў лідэра. Асабліва цяжка даюцца гульні з беларускімі спартсменамі маскоўскім клубам. Усе яны панеслі страты ў сустрэчах з мінчанамі. Так, у перадапошнім туры "Цівалі" нанесла паражэнне маскоўскім "Крылам Саветаў", якія дагэтуль упэўнена ўзначальвалі табліцу розыгрышу.

## КАБ НЕ ТРАЎМЫ...

Вялікі міжнародны турнір па баскетболу прайшоў у Санкт-Пецярбургу. Паспяхова ў ім стартавалі спартсмены Беларусі. У сваёй падгрупе яны занялі першае месца і выйшлі ў фінал, дзе сустрэліся з гаспадарамі.

Спачатку беларусы выйгравалі ў сваіх сапернікаў (нават 14 ачкоў), але сваю перавагу захаваць не змаглі, бо з-за траўм пакінулі пляцоўку адразу некалькі моцных баскетбалістаў. А ў выніку -- пройгрыш -- 82:86 і другое месца.

## НЕ ГУСТА

Усяго два спартсмены прадстаўлялі Рэспубліку Беларусь на заключным этапе Кубка свету па плаванню, які прайшоў у Германіі.

Алег Рухлевіч з Мінска заняў трэцяе месца на дыстанцыі 50 метраў (батэрфляй) і ўстанавіў рэкорд рэспублікі -- 24,46 секунды.

Алімпійская чэмпіёнка гамяльчанка Алена Рудкоўская на стометроўцы (брас) аказалася толькі пятай.

## УВАЙШЛІ Ў ДЗЕСЯТКУ

У Францыі завяршыўся чэмпіянат свету па фрыстайлу. Аляксей Парфянкоў з Беларусі рэальна прэтэндаваў на адзін з медалёў. Але нечаканае падзенне не дазволіла яму падняцца вышэй шостага месца.

Яго земляку Васілю Вараб'ёву дасталася дзесятае месца.

## ЯШЧЭ НЕ ВЕЧАР

Скончыліся паўфінальныя паядынкі за званне чэмпіёна свету па шахматах, якія прайшлі ў індыйскім горадзе Сангінагары.

Камскі (ЗША) лёгка расправіўся з Валерыем Салавым (Іспанія) -- 5,5:1,5 ачка.

Больш напружана праходзіў паядынак расіяніна Анатоля Карпава з беларусам Барысам Гельфандам. Але і тут больш вопытны Анатоль Карпаў атрымаў перамогу -- 6:3.

І тым не менш трэба прызнаць, што ў гэтых спаборніцтвах наш зямляк выступіў вельмі добра. Улічваючы, што яму няма яшчэ і трыццаці гадоў, вяршыня яго спартыўнай славы -- наперадзе.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 255. Падпісана да друку 27. 2.1995 г.